ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 9 (2588)
ПЯТНІЦА
3
сакавіка 1972 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.

## У НУМАРЫ ЧЫТАЙЦЕ:


**ІВАН МЕЛЕЖ — У СПІСЕ КАНДЫДАТАЎ НА АТРЫМАННЕ ЛЕНІНСКАЙ ПРЭМІІ 1972 ГОДА**
Стар. 2

**ТЭАТР — АРГАНІЗАТАР ТВОРЧАГА ПОШУКУ**
*Думкі камсамольскага работніка пра выхаванне артыстычнай моладзі*
Стар. 3

**ЛІРЫЧНЫ САКАВІК**
*Вершы і апавяданне літаратараў — жанчын.*
Стар. 4—5

**«ЛЕЙТЭНАНТ ЗІНА»**
*Старонкі ўспамінаў пра пісьменніцу.*
Стар. 6

**ЧАСОПІС ВЫЙШАЎ У СВЕТ**
Стар. 9

**КАЛІ ЖЫЦЦЁ АДДАДЗЕНА ТЭАТРУ**
*Роздум актрысы.*
Стар. 10

**АПАВЯДАННІ, АПОВЕСЦІ, РАМАН...**
*Слова пра Тараса Хадкевіча.*
Стар. 11

**СЯРОД КНІГ**
Стар. 12

**ХЛУСНЯ—ІХ ЗБРОЯ**
*Пра нашых ідэалагічных ворагаў.*
Стар. 14—15




Жылуновіч... Мяснікоў... Кнорын... Адамовіч... Чарвякоў...

Групавы партрэт гэтых выдатных дзеячоў рэвалюцыйнай барацьбы на беларускай зямлі напісаў У. Стальмашонак.

«Прэм'ера» гэтай карціны, як і многіх іншых, якія адабраны для ўдзелу ў занальнай мастацкай выстаўцы Беларусі і Малдавіі, адбудзецца сёння ў Маскве ў Манежы—самай вялікай выставачнай зале сталіцы.

Слова з гэтай нагоды — на стар. 8.

# АД КАМІТЭТА ПА ЛЕНІНСКІХ І ДЗЯРЖАЎНЫХ ПРЭМІЯХ СССР

## У ГАЛІНЕ ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА І АРХІТЭКТУРЫ ПРЫ САВЕЦЕ МІНІСТРАЎ СССР

Камітэт па Ленінскіх і Дзяржаўных прэміях СССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры паведамляе, што да ўдзелу ў конкурсе на атрыманне Ленінскіх прэмій 1972 года дапушчаны наступныя кандыдатуры:

1. **Архіпава І. К. Канцэртныя праграмы 1969 — 1971 гг.**

Прадстаўлена Саюзканцэртам, Дзяржаўным Акадэмічным вялікім тэатрам СССР.

2. **Барто А. Л.** Кніга вершаў **«За кветкамі ў зімовы лес».**

Прадстаўлена Саюзам пісьменнікаў РСФСР, выдавецтвам «Дзіцячая літаратура», рэдкалегіяй часопіса «Детская литература» (на прэмію «За творы літаратуры і мастацтва для дзяцей»).

3. **Бердзенішвілі М. І. Помнік Георгію Саакадзе** ў г. Каспі.

Прадстаўлена Саюзам мастакоў Грузіі, Каспскім РК КП Грузіі і Каспскім райвыканкомам.

4. **Кабалеўскі Д. Б.** Опера **«Кала Бруньён»** (новая рэдакцыя).

Прадстаўлена Саюзам кампазітараў СССР, аддзелам культуры Кунгурскага гарвыканкома.

5. **Мезенцаў Б. С.** — архітэктар, кіраўнік работы, **Канстанцінаў М. П.**, **Ісаковіч Г. Г.** — архітэктары, **Фабрыкант Л. Б.**—галоўны будаўнік, **Мекрукоў І. А.**—інжынер, **Рагашоў І. С.**—інжынер, **Малчанаў В. Н.**—выканаўца работ — будаўнікі. **Ленінскі мемарыял** у г. Ульянаўску.

Прадстаўлена Дзяржаўным камітэтам па грамадзянскім будаўніцтве і архітэктуры пры Дзяржбудзе СССР, Ульянаўскім абкомам КПСС і Ульянаўскім аблвыканкомам, Маскоўскай арганізацыяй Саюза архітэктараў СССР.

6. **Мележ І. П.** Раман- дылогія: **«Людзі на балоце», «Подых навальніцы».**

Прадстаўлена Саюзам пісьменнікаў Беларусі.

7. **Озераў Ю. Н.** — рэжысёр і аўтар сцэнарыя, **Бондараў Ю. В.**, **Курганаў О. І.**— аўтары сцэнарыя, **Слабневіч І. М.** — аператар, **Мягкоў А. В.**—мастак. Кінаэпапея **«Вызваленне»** (фільмы: «Вогненная дуга», «Прарыў», «Напрамак галоўнага ўдару», «Бітва за Берлін», «Апошні штурм»).

Прадстаўлена Саюзам кінематаграфістаў СССР, ЦК прафсаюза работнікаў культуры, кінастудыяй «Масфільм», Саюзам пісьменнікаў РСФСР.

8. **Святланаў Е. Ф. Канцэртныя праграмы 1969—1971 гг.**

Прадстаўлена Маскоўскай дзяржаўнай філармоніяй, Дзяржаўнай Омскай філармоніяй, Омскім нафтаперапрацоўчым камбінатам.

9. **Томскі Н. В. Помнік У. І. Леніну** ў г. Берліне.

Прадстаўлена Саюзам мастакоў СССР, Акадэміяй мастацтваў СССР, Міністэрствам культуры РСФСР.

10. **Шагінян М. С.** Тэтралогія пра У. І. Леніна: **«Нараджэнне сына»** («Сям'я Ульянавых»), **«Першая Усерасійская», «Білет па гісторыі», «Чатыры ўрокі ў Леніна».**

Прадстаўлена выдавецтвам «Мастацкая літаратура», выдавецтвам «Маладая гвардыя».

Для шырокага азнаямлення з работамі, выстаўленымі на атрыманне Ленінскіх прэмій, Дзяржаўны камітэт Савета Міністраў СССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні арганізуе цыкл перадач па радыё і па тэлевізійных цэнтрах, а Камітэт па кінематаграфіі пры Савеце Міністраў СССР—дэманстрацыю фільмаў у гарадах краіны.

Вялікай дапамогай Камітэту па Ленінскіх і Дзяржаўных прэміях СССР з'явіцца актыўнае абмеркаванне прадстаўленых работ савецкай грамадскасцю і органамі друку. Камітэт звяртаецца да творчых і грамадскіх арганізацый, устаноў культуры, навукова-даследчых інстытутаў, а таксама да рэдакцый газет з просьбай арганізаваць абмеркаванне работ, пакінутых для ўдзелу ў конкурсе, да 20 сакавіка г. г.

Водгукі аб кандыдатурах, матэрыялы грамадскіх абмеркаванняў прысылаць у камітэт па адрасе: Масква, Цэнтр, ГСП-4, Няглінная вул., дом 15.

# ПЕСНІ БАЦЬКОЎ

*З ФЕСТЫВАЛЮ ФАЛЬКЛОРНАГА МАСТАЦТВА ГРОДЗЕНШЧЫНЫ*

ПАВОЛЬЧА круцяцца касеты магнітафона. Тры жаночыя галасы зладжана выводзяць:

Тры рэчанькі
сцякаліся,
Тры сястрыцы
з'язджаліся,
Адна ў адной
пыталіся:
Ой, ці добра,
сястрыца,
Ой, ці добра, радная,
З вельхім мужам
жыці?..

— Здарова! — звяртаецца да мяне Марк Коп. — Вы толькі паслухайце, мелодыя якая! А рытм, а гукавыя пералівы! Можна слухаць гадзінамі — любавацца, вучыцца, — падтрымлівае сябра Віктар Губіч.

Абодвух маіх субяседнікаў ведаюць у Гродзенскай вобласці як энтузіястаў народнай творчасці. І хаця працуюць яны на сваіх пасадах нядаўна (Коп — дырэктар абласнога дома народнай творчасці, Губіч — намеснік начальніка ўпраўлення культуры), — паспелі зрабіць нямала. Фестываль фальклорнага мастацтва цяжка ўявіць без іх энергіі, улюбёнасці ў тое, што стварылі на працягу стагоддзяў нашы далёкія і блізкія продкі.

— З якой мэтай быў праведзены такі агляд?— паўтарае маё пытанне Віктар Губіч. — Перш за ўсё трэба захаваць тое, што сёння жыве ў народзе—песні, паданні, танцы. Мы, работнікі культуры, адкрылі столькі новага, не запісанага нікім, неапрацаванага, што асвойваць гэта работнікам устаноў культуры, самадзейным кампазітарам і творчым работнікам вобласці хопіць надоўга.

Акрамя таго, нам хацелася выявіць новыя фальклорныя калектывы, выканаўцаў, а таксама самабытныя харэаграфічныя і інструментальныя ансамблі.

— І гэта ў значнай ступені ўдалося,—уступае ў размову Марк Коп.—На сцэну выйшлі людзі, якія выступалі на ёй упершыню ў жыцці. І якія гэта аказаліся выканаўцы!

Ён зноў уключае магнітафон. Жаночыя галасы пачынаюць песню. Нешта не заладзілася. Моцны старэчы голас спыняе песню:

«Стойце, бабы! Не так у нас палучаецца. Пачалі зноў!».

Песня гучыць зноў. Цяпер яна — як складаны ўзор: нітачка да нітачкі, голас да голасу. Заліста, працяжна спяваюць немаладыя ўжо кабеты, якія, можа, упершыню пачулі гэтую песню яшчэ падлеткамі, гібеючы на панскім полі. А можа, прыйшла яна да іх у доўгія зімовыя вечары, калі тонкімі дзявочымі пальцамі сучылі кудзелю сабе на зрэбныя спадніцы, не ведаючы, што шчаслівая доля, пра якую мараць, хутка прыйдзе і да іх...

— Вось такімі «навічкамі» на сцэне былі вакальная група пенсіянераў калгаса «Ленінскі шлях» Воранаўскага раёна, сёстры Каневіч з калгаса «Праўда» гэтага ж раёна, Навадворскі фальклорны калектыў са Свіслацкага раёна і многія другія, — гаворыць Губіч.

Самае, бадай, цікавае на святах фальклору — гэта народныя абрады: вясельныя, каляндарныя або купальскія. Як вялікі і незвычайна арыгінальны спектакль глядзіш народны вясельны абрад у выкананні Багудзенскага фальклорнага калектыву. Тут табе і сваты з гумарыстычнымі выступленнямі, прыпеўкамі, прыказкамі, і танцы, і песні пра дружкоў, жаніха і нявесту. Многае з гэтага імправізаванае, знойдзенае тут, на сцэне — і трапнае слаўцо, і рэпліка.

— Што было найбольш характэрным у аглядах фальклорнага мастацтва?

**М. Коп:**

— Канечне, масавасць. Агляды праходзілі як раённыя святы. Шмат было ўдзельнікаў (чатыры з паловай тысячы), а слухачоў — як кажуць, яблыку не было дзе ўпасці. Амаль з кожнай вёскі прывозілі то песню, то танец, то цікавы абрад— у большасці ўсё гэта выносілася на шырокую аўдыторыю ўпершыню. Узяць хаця б Лідскі раён. Дакудава, Бердаўка, Крупава, Збляны, Бярозаўка — у кожнага калектыву свая, арыгінальная праграма, сваё гучанне, каларыт.

— Слухаючы запіс, я заўважыла таксама, што большасць калектываў прывезла на агляд цэлую праграму, аб'яднаную адной думкай або ідэяй. Многа вячорак. Вось тут, на магнітафоннай стужцы, адна з іх. Раскажыце пра яе выканаўцаў.

**М. Коп:**

— Гэта — вячоркі з вёскі Нясуцічы Навагрудскага раёна. Старэйшаму з выканаўцаў, Пятру Сямёнавічу Фалевічу, семдзесят шэсць гадоў, Журко Мікалаю Адамавічу і яго жонцы Сцепанідзе Фёдараўне — за шэсцьдзесят. Яны, дарэчы, успаміналі, як у змрочныя часы белапольскай акупацыі збіралі сялян на вячоркі са сваёй і суседняй вёсак, як літаральна «вырывалі» ў навагрудскай паліцыі дазвол на песню. Вячоркі былі тады не толькі адпачынкам, але і сродкам барацьбы, падчас іх распаўсюджваліся лістоўкі, збіраліся грошы для палітвязняў. Ды і сама беларуская песня, праспяваная ўголас, выклікала ў людзей жаданне змагацца за сваю нацыянальную незалежнасць.

А сягоння гэтыя вячоркі расказваюць аб вялікай мудрасці нашага народа, яго дабраце і паэтычнасці, перадаюць нам яго даўнейшы боль, радасць, нянавісць і надзеі...

— Аб гэтым, дарэчы, добра пісаў вядомы знаўца беларускіх народных песняў народны артыст СССР Рыгор Раманавіч Шырма, — дадае Віктар Губіч. — Раней лічылася, што ў народзе спяваюць непрыгожа, адкрытым гукам. Цяпер мяняюцца і гэтыя погляды, і адносіны да народнага мастацтва. Усё смялей самадзейныя калектывы мастацкай самадзейнасці выкарыстоўваюць у сваіх праграмах фальклор. Нядаўнія выступленні Лідскага ансамбля песні і танца абутковай фабрыкі, хору завода «Лідсельмаш» і ансамбля «Лідчанка» — яркі таму прыклад.

— Якія танцавальныя калектывы атрымалі лепшыя ацэнкі журы?

**В. Губіч:**

— Як ужо гаварылася, на аглядах мы сустракаліся з песнямі, танцамі, дасюль не чутымі і не бачанымі не толькі шырокай аўдыторыяй, але і спецыялістамі. А якая своеасаблівасць кампазіцыйнага малюнка, напрыклад, у вясковых кадрылях! Часам у беларускіх сцэнічных танцах назіраем адны і тыя ж рухі, кампазіцыі. Гэта — ленасць харэаграфічнай думкі і няўменне дастаць з народных глыбіняў новае. Мы ў гэтым яшчэ раз пераканаліся, калі глядзелі кадрылі: «Кругавую» ансамбля «Лідчанка», «Гудараўскую»—Карэліцкага, «Бараўскую»—Іўеўскага, «Дзембраўскую» — Лідскага раёнаў.

— Якія недахопы ў развіцці і паказе фальклорнага мастацтва выявіліся ў час раённых аглядаў?

**М. Коп:**

— Практычна не было празаічных жанраў фальклору. Не часта ўдавалася пачуць беларускія народныя інструменты — дудку, цымбалы, бубен. Ды і ўвогуле мы зразумелі, што падняты толькі верхні пласт фальклору вобласці, што ў глыбіні народнай — невычэрпныя яго запасы.

У той жа час вынікі агляду парадавалі. Дзвесце семдзесят два фальклорныя калектывы — удзельнікі яго — гэта нямала! Тым больш, што такое мерапрыемства праводзілася ў вобласці ўпершыню. Колькі пошукаў правялі нештатныя кансультанты Абласнога дома народнай творчасці — выкладчыкі культурна-асветных і музычных устаноў — Адам Чопчыц, Вячаслаў Куцын, Эдуард Арсюцін, Марыя Бейдук, Алег Андрэеў і многія іншыя! Часам угаварыць чалавека выступіць на сцэне было гэтак жа нялёгка, як і знайсці яго. Людзі спачатку баяліся: «А мо што не так выйдзе?». А выходзіла, ды яшчэ як! Калі мы потым глядзелі, з якім імпэтам вытанцоўвалі яны кадрылю або спявалі прыпеўкі, не верылася, што ім за шэсцьдзесят, за семдзесят гадоў.

Беларуская вусная творчасць асабліва багатая і шматгранная, бо доўгія вякі яна была адзіным выяўленнем народнай душы і паэтычнага яго таленту.

У сакавіку ў Гродне пройдзе заключны тур абласнога фальклорнага фестывалю. І добра было б, каб песні дзядоў і бацькоў выконвалі не толькі людзі пажылога ўзросту, але і тыя, хто павінен будзе несці іх далей...

**В. ІПАТАВА.**

# ХІІІ З'ЕЗД ПРАФСАЮЗАЎ БЕЛАРУСІ

1 сакавіка 1972 года ў Мінску пачаў сваю работу ХІІІ з'езд прафсаюзаў Беларусі.

730 дэлегатаў, што прыехалі на з'езд з усіх куткоў рэспублікі, прадстаўляюць 3 мільёны 505 тысяч членаў прафсаюзаў.

Дэлегаты цёпла сустрэлі прывітанне Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі ХІІІ з'езду прафсаюзаў рэспублікі, якое зачытаў сакратар ЦК КПБ А. А. Смірноў.

Са справаздачным дакладам аб рабоце Беларускага рэспубліканскага савета прафсаюзаў выступіў старшыня Белсаўпрофа М. Н. Полазаў. Справаздачны даклад рэвізійнай камісіі зрабіў яе старшыня Л. Ф. Паміла.

# ПЯТЫ УСЕСАЮЗНЫ

Сёлета Усесаюзны кінафестываль адбыўся ў сталіцы Грузіі Тбілісі. Гэта быў творчы агляд дасягненняў усіх студый краіны напярэдадні вялікага свята — 50-годдзя ўтварэння СССР.

Галоўны прыз атрымала кінаэпапея «Вызваленне» (дзве серыі—«Бітва за Берлін» і «Апошні штурм»), знятая масфільмаўцамі. Прызамі і прэміямі адзначаны стужкі студыі імя А. Даўжэнкі—«Захар Беркут», «Таджыкфільма» — «Рустам і Сухраб», «Грузіяфільма»—«Цяпло тваіх рук». Сярод дзіцячых фільмаў лепшым прызнаны твор Маскоўскай студыі імя М. Горкага «Ох, ужо гэтая Насця!».

Спецыяльнымі прэміямі ўзнагароджаны лепшыя выканаўцы роляў. Іх атрымалі актрысы С. Чыаурэлі і М. Аймедава («Цяпло тваіх рук» і «Нявестка») і акцёры Ю. Гарабец (за галоўную ролю ў карціне студыі «Беларусьфільм» «Бацька»), А. Іскандэраў і Г. Мамедаў (азербайджанская стужка «Апошні перавал») і С. Чакмароў (кіргізская стужка «Чырвоныя макі Іссык-куля»).

Па раздзеле дакументальных і навукова-папулярных фільмаў прызы атрымалі кіргізскі «Нарымскі дзённік» і твор Цэнтральнай студыі дакументальных фільмаў «Шлях Амерыкі», грузінская стужка «Высотнікі», літоўская—«На свята» і таджыкская—«Мой дом». «Ленін і Туркестан»—фільм, зняты ўзбекскімі кінематаграфістамі, і «Крыніцы жыцця» студыі «Цэнтранавукфільм» прызнаны лепшымі сярод навукова-папулярных.

# ЮБІЛЯРА ВІНШУЮЦЬ АЎТАЗАВОДЦЫ

Урачысты вечар, прысвечаны 60-годдзю вядомага беларускага празаіка і крытыка Ул. Карпава, адбыўся ў актавай зале Мінскага ордэнаў Леніна і Кастрычніцкай Рэвалюцыі аўтамабільнага завода. Аўтазаводцы ж—героі многіх твораў пісьменніка.

Вечар адкрыў першы намеснік старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў БССР Іван Шамякін. Слова пра творчы шлях Ул. Карпава сказаў Макар Паслядовіч. Ад імя пісьменніцкай арганізацыі юбіляра віталі народны паэт БССР Максім Танк і Алесь Асіпенка. Намеснік старшыні Мінскага гарвыканкома М. Жукоўскі горача падзякаваў аўтару за творы пра сталіцу Беларусі і пажадаў яму новых творчых поспехаў. З успамінамі пра слаўныя справы Карпава — падпольшчыка і партызана —выступілі былы камандзір спецатрада «Мсцівец» Ф. Хвясько і генерал-маёр у адстаўцы пісьменнік М. Аляксееў. Ад імя аўтазаводцаў юбіляра віншавала намеснік сакратара парткома Т. Шаўчэнка, якая паднесла яму памятны падарунак.

У заключэнне вечара выступіў Ул. Карпаў.

*З УЗНАГАРОДАЙ!*

**За заслугі ў развіцці беларускай савецкай літаратуры і ў сувязі з шасцідзесяцігоддзем з дня нараджэння Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР узнагародзіў пісьменніка Карпава Уладзіміра Барысавіча Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.**

А мне да сталасці яшчэ расці і расці
І зведаць хлеб, у працы несалодкі.

Нядобрым словам поле не кранi,
Што ўраджаем буйна ўскаласіла.
А маладога сэрца карані
Бясконца п'юць яго любоў і сілу.

## Ніна ЗАГОРСКАЯ



Нейкі схмялелы ранак...
Ці, можа, я схмялела.
Як першы раз, дзіўлюся
ранку вясноваму...
Яшчэ з акна
Я згледзела шпакоў
ці мо другіх,
да іх падобных птушак.
Яны першыя згледзелі сонца,
што з-за небакраю плыло.
Зразумеўшы сігнал птушыны,
я спяшаюся па снежнай скарынцы
на вялікі прагал ля рэчкі —
я спяшаюся вітаць зару.
Як лянівы каток з запеку,
разаспанае і ружовае,
не спяшае, паволі коціцца,
прачынаецца сонца-зара...
І бягу я шпарка за сонцам
на гару, да падпораў-сосен...
Толькі што гэта?!
Тысячы сонцаў,
весялушак-люстэркаў маленькіх,
зіхацяць на іголках сосен...
І гляджуся ў люстэркі тыя —
як бы лёсу свайго шукаю,
а вясёлае — друг мой — сонца
п'е люстэркі-расу...
Я праменні сонца
У далоні, як дзеці, лаўлю.
І адно маленькае шчасце
на рапіры — сасновай іголцы —
дадому нясу...

## Люба РУСІЛКА



## МАЦІ

Яе сустрэла — сэрца паласнуў
Жалобны колер просценькай хусцінкі.
І ноччу вось мне доўга не заснуць,
Цякуць у думкі матчыны слязінкі.

І бачу зноў яе адну,
У чорнай хустцы, з тварам без крывінкі.
Нішто не зможа страту ёй вярнуць
І боль сардэчны сціішыць на хвілінку.

## У ЯГАДАХ

Падпіраюць неба сосны,
У роздуме хістаюцца.
А брусніцы ранкам росным
Добра абіраюцца!
Тс-с...,— дзяўчатак смех іскрысты,
Водарам захмелены.
А навокал чыста-чыста
І ружова-зелена.

## Жэня ЯНІШЧЫЦ



## УЗОР

Узор мой вытчацца даўгім
На кроснах суму і спакою
Паміж зялёнаю вясною
І лістападам залатым.

Сатку узор прыгожы свой
Я з верасоў і медуніцы
І раскатаю ўвесь сувой
Да роднай вёскі Велясніцы.

Узор другі сатку, калі
Ўпадзе лісцё з галін дубовых—
І пасцялю на той зямлі,
Што волю мне дала і мову.
А трэці вытку я тады,
Калі ў журбе і весялосці
Адыдуць лепшыя гады
Неўтаймаванай маладосці.

## РАДКІ ДА СЯБРА

*АЛЕСЮ*

Яшчэ пранясуцца ў трывозе
Адчай. Неспакой. Забыццё.
Як лёгка ступаць па дарозе!
Як цяжка праходзіць жыццём.

Ісці з непакоем, без жалю
Пад полагам выспелых зор,
За гэтай адвечнаю даллю
Такі неабжыты прастор!

За роднай драўлянаю хатай,
За выганам тым палявым
Ўсё звязана з песняй крылатай
І з іменем простым тваім.

Сяргеевіч знайшоў нейкі «газік» і павёз іх у аблана: Наташына мама была настаўніца. На вуліцах не было людзей, дамоў таксама не было, толькі велізарныя кучы цэглы ды сям-там сцены з чорнымі праваламі акон.

Мама расказвала потым Івану Сяргеевічу, што вось тады яна па-сапраўднаму спалохалася: куды яна едзе ў чужой машыне з невядомым чалавекам у гэтым мёртвым горадзе! Што будзе з ёй і з дзіцем! А Наташы было спакойна і ўтульна на каленях у Івана Сяргеевіча.

Будынак, у якім размяшчалася аблана і ўсе астатнія гарадскія арганізацыі, быў цэлы, але дзверы былі замкнёныя. Ля пад'езда стаяў замёрзлы міліцыянер. Мама запыталася, як трапіць у аблана.

— Сёння выхадны, — буркнуў міліцыянер і пайшоў рабіць абход.

Мама, здаецца, заплакала — у цемры не было відаць.

— Ну цэ шчэ нэ лыхо,— сказаў Іван Сяргеевіч і павёў іх у педвучылішча. Начаваць размясціліся на сталах у класе, і Наташы было вельмі весела. Іван Сяргеевіч пайшоў да сябе ў інтэрнат, паабяцаўшы завітаць назаўтра.

Наступнага дня Наташа не памятае. Мама, якая ніколі ў жыцці не паліла ў печы, рана зачыніла комін, і яны ўчадзелі. На шчасце, Іван Сяргеевіч сапраўды прыйшоў раніцай, а потым прыходзіў у бальніцу, дзе яны з мамай ляжалі. Ён і адвёз іх на новую кватэру, якую маме далі, пакуль яны хварэлі.

Праз год мама і Іван Сяргеевіч ажаніліся. Мама паклікала Наташу, пасадзіла на калені. Твар у яе быў вінаваты.

— Наташанька, хочаш, Іван Сяргеевіч заўсёды будзе жыць з намі?

— Хачу, — узрадавалася Наташа. Але ў тую ж хвіліну ёй раптам захацелася, каб Іван Сяргеевіч пайшоў з іх дома і каб яны па-ранейшаму жылі з мамай удваіх. Чамусьці ёй раптам успомніўся бацька. Сваіх успамінаў у Наташы не было, але мама раней пра яго расказвала і толькі пасля знаёмства з Іванам Сяргеевічам расказваць перастала.

Бацька быў разумны, вясёлы і прыгожы. У Наташы захавалася адно пісьмо, якое ён прыслаў ёй з фронту. Ён пісаў, што, калі прыедзе, абавязкова навучыць яе скакаць цераз скакалку, а пакуль ён патрэніруецца сам, каб потым яму перад Наташай не было сорамна. А ў канцы быў намаляваны чалавечак з доўгай шыяй, аблытанай скакалкай.

Бацька не вярнуўся з вайны, і яна сама навучылася скакаць цераз вяровачку. Наташа падумала, што Іван Сяргеевіч зусім не падобны на яе бацьку, але пабаялася яго крыўдзіць. Яна толькі ўздыхнула і пайшла на вуліцу.

Яны пражылі разам шмат гадоў. Наташа вырасла, закончыла школу. Іван Сяргеевіч пастарэў, палысеў.

— Наташа, трымай відэлец правільна і не хрумстай, калі ясі.

Наташа паклала відэлец, ёй больш не хацелася есці. Ён гэтага не заўважыў.

— Дарэчы, мне сёння патрэбны былі нажніцы, а ты іх кінула ў сваім пакоі. Хіба цяжка пакласці рэч на месца, каб іншым не даводзілася шукаць?

Наташа, насупіўшыся, маўчала, таму што Іван Сяргеевіч сапраўды многа разоў прасіў яе класці рэчы на сваё месца, але яна не ўмела гэтага рабіць.

— І яшчэ: ты зноў брала маю аўтаручку, а я ж прасіў гэтага не рабіць, ты пішаш з нахілам і пяро робіцца крывое...

«Ну, чаго ён ад мяне хоча?» Як заўсёды ў такія хвіліны, падумала пра бацьку. «Чаму мне так не пашанцавала? Быў бы бацька, усё было б інакш. Ён быў вясёлы, вялікадушны.



Мал. А. САПЕТКІ.

Ён не крыўдзіў бы мяне з-за дробязей. Нажніцы, аўтаручка... Калі б ён быў жывы! Мама ніколі б не выйшла замуж за Івана Сяргеевіча. Як ён мне надакучыў! Вельмі мне не пашанцавала».

Калі б Наташа ведала тады праўду! Калі б яна ведала, што бацька жывы і праз год яна будзе плакаць ад гора і адзіноты, чытаючы яго пісьмо! Але тады яна яшчэ нічога не ведала і сядзела насупраць айчыма, намагаючыся праглынуць камячок, што засеў у горле, і не заплакаць. Тады Наташа са смуткам глядзела ў акно і думала, што, калі б яна магла сказаць айчыму ўсё, ёй было б лягчэй. Але за сталом сядзеў чужы чалавек, а яна не любіла расказваць чужым пра свае бядоты. Пакрыўджаная, яна замаўкала, замыкалася ў сабе.

А Іван Сяргеевіч працягваў.

— Ты зразумей, мне не шкада ручкі. Хочаш, я куплю табе новую? Для мяне важна, каб ты прывыкла да парадку.

Мама, спалохаўшыся, што Наташа заплача, а потым будзе саромецца сваіх слёз, абурана ўстала з-за стала:

— Перастань, Іван! Чуеш, перастань! Наташа больш не будзе браць тваёй ручкі. Я сама хачу адказваць за тое, як яна трымае відэлец. І скончым на гэтым.

«Здаецца, я яго ненавіджу», — ужо ўпэўнена сказала яна сама сабе і, раптам супакоіўшыся, пайшла ў свой пакой.

Перад ёй мільгануў разгублены твар айчыма. Ён машынальна выцiраў акуляры ражком гальштука.

— Анечка, што здарылася? Я не хацеў вас пакрыўдзіць. Я хачу Наташы толькі дабра, ты гэта ведаеш.

І закончыў нечакана хрыплым голасам:

— Ты ж ведаеш, што пасля смерці Машы і Леначкі ў мяне засталіся толькі вы. Я не хацеў вас пакрыўдзіць.

Мама рванулася да Івана Сяргеевіча, прыціснула яго галаву да сябе. Наташа ведала, што цяпер Іван Сяргеевіч будзе пакутаваць, хадзіць на дыбачках міма яе пакоя, вечарам будзе чысціць яе туфлі, а потым прыйдзе і доўга будзе тлумачыць і прасіць, каб яна не крыўдзілася. І, як заўсёды, ёй будзе яго шкада, і яна засмяецца яго няўмеламу жарту, як смяялася некалі ў дзяцінстве.

А з-за дзвярэй чуўся ціхі мамін голас:

— Я ўсё ведаю, Ваня. Табе з намі вельмі цяжка. Даруй мне.

Мама памерла ў красавіку ў сонечны, цёплы дзень. Усё адбылося нечакана. Яна не паспела данесці руку да сэрца, не паспела нічога сказаць. Толькі на твары застыла здзіўленне.

Як бы аглушаная, стаяла Наташа на могілках. Іван Сяргеевіч плакаў. Яго ніяк не маглі адвесці ад труны. А Наташа не ўмела плакаць пры людзях. Яна ведала, што гора Івана Сяргеевіча шчырае, але не хацела, не магла дзяліць яго з ім. У яе было сваё гора. І ў яе з'явілася свая адзінота. Увечары Наташа плакала ў сваім пакоі, накрыўшы галаву падушкай. Яна вельмі баялася, што хто-небудзь пачуе і прыйдзе яе шкадаваць.

Праз два месяцы пачаліся выпускныя экзамены ў школе. Дома было пуста і ціха. Іван Сяргеевіч павесіў над ложкам мамін партрэт у чорнай раме і, прыходзячы з работы, гадзінамі сядзеў, гледзячы на яго, як быццам спадзяваўся пачуць нешта, яму недасказанае. Партрэт быў павялічаны з аматарскай фотакарткі, бяздарна адрэтушыраваны фатографам. Твар на партрэце быў прыгожы, але нейкі застылы і — ганарлівы. А ў жыцці мама не была такая прыгожая. Яна была ласкавая, добрая, з ціхім голасам. Наташа не магла глядзець на гэты чужы твар, яна не разумела, навошта Іван Сяргеевіч павесіў партрэт у агіднай чорнай раме ў доме, дзе многа маміных рэчаў, дзе, як ёй здавалася, яшчэ гучыць мамін голас.

На час экзаменаў Наташа перабралася да сяброўкі. Іван Сяргеевіч іншы раз прыходзіў да яе, каб даведацца, ці ўсё ў яе ёсць, і запытацца, як здала чарговы экзамен, але адчувалася, што яму цяжка бачыць Наташу: яна была вельмі падобная на маці.

У жніўні Наташа ад'язджала ў Мінск здаваць экзамены ў інстытут. На вакзале Іван Сяргеевіч мітусіўся: то бегаў па бутэрброды і старанна загортваў іх у сурвэтку, то ўспамінаў, што Наташа забыла зубную пасту і кідаўся да аптэчнага кіёска. У купэ вельмі доўга ўладкоўваў чамадан на верхняй паліцы і толькі перад самым адпраўленнем цягніка прысеў побач, нясмела пагладзіў яе па галаве:

— Ты пастарайся ўжо, Натачка. Мама так хацела, каб ты вучылася.

Наташы захацелася адхіліцца ад гэтай чужой рукі, але яна спахапілася, застыла на месцы і моўчкі кіўнула галавой.

(Заканчэнне на 6-й стар.).

# ПЕРШЫ АБАВЯЗАК МАСТАКА

А. ВАНІЦКІ,

намеснік міністра культуры БССР


В. ГРАМЫКА. Жанчынам Вялікай Айчыннай прысвячаецца.


У. ХМЫЗНІКАЎ. Скарына.

XXIV З'ЕЗД Камуністычнай партыі Савецкага Саюза накрэсліў велічную праграму развіцця нашага грамадства на бліжэйшую пяцігодку. Істотная ўвага сярод шматлікіх важных пытанняў на з'ездзе была ўдзелена надзённым праблемам далейшага развіцця нашай навукі, літаратуры і мастацтва. І гэта не магло не актывізаваць творчую работу савецкіх дзеячоў культуры, у тым ліку майстроў выяўленчага мастацтва.

Партыйны з'езд заклікаў мастакоў яшчэ мацней звязаць творчасць з вялікімі справамі краіны, якая будуе камунізм.

На развіцці выяўленчага мастацтва сёння ўжо адчуваецца ўплыў прасякнутай духам патрабаванняў XXIV з'езда Пастановы ЦК КПСС «Аб літаратурна-мастацкай крытыцы». Гэтая пастанова — уважлівая, чулая падтрымка партыяй сапраўды наватарскага, сапраўды таленавітага ў нашым мастацтве, рашучы заклік па-дзелавому, творча пераадольваць усё, што не садзейнічае паспяховаму ажыццяўленню ў нашым мастацтве прынцыпаў партыйнасці і народнасці.

Днямі мы ўсе прачыталі яшчэ адзін важнейшы партыйны дакумент — Пастанову ЦК КПСС «Аб падрыхтоўцы да 50-годдзя ўтварэння Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік». Да ўсіх савецкіх майстроў мастацтва, у тым ліку і выяўленчага, мае дачыненне выказаная ў гэтым дакуменце прынцыпова-важная думка аб тым, што за гады будаўніцтва сацыялізма і камунізма ў СССР узнікла новая гістарычная агульнасць людзей — савецкі народ. У развіцці гэтага тэзіса пастановы — цэлая праграма дзейнасці нашага мастацтва, важнейшы кірунак гэтай дзейнасці. «Склаліся выдатныя рысы савецкага чалавека: адданасць справе камунізма, сацыялістычны патрыятызм і інтэрнацыяналізм, высокая працоўная і грамадска - палітычная актыўнасць, непрымірымасць да эксплуатацыі і прыгнёту, нацыянальных і расавых забабонаў, класавая салідарнасць з працоўнымі ўсіх краін. Выраслі пакаленні сапраўдных інтэрнацыяналістаў — самаадданых барацьбітоў за камунізм. У СССР створаны неабходныя матэрыяльныя і духоўныя ўмовы для далейшага росту творчых магчымасцей кожнага савецкага чалавека, усебаковага развіцця асобы».

Чытаючы гэтыя радкі Пастановы ЦК КПСС, нельга не думаць: які наш сучаснік, савецкі чалавек, багаты душой, і адлюстраваць ягоныя рэальныя рысы — першы абавязак мастака!

Ствараць вобразы нашых сучаснікаў, якія былі б здольныя выхаваўча ўздзейнічаць на гледача, якія маглі б гледачу спасцігаць сутнасць працэсу развіцця нашай рэчаіснасці, — удзячная і адказная мэта выяўленчага мастацтва.

Партыйныя дакументы па ідэалагічных пытаннях — яскравы прыклад сапраўды ленінскага клопату пра развіццё нашай культуры.

Экспазіцыя, разгорнутая ў Цэнтральнай выставачнай зале ў сталіцы нашай Радзімы,— адказная творчая справаздача майстроў выяўленчага мастацтва перад партыяй і перад народам.

Выстаўка прысвечана 50-годдзю ўтварэння СССР. У яе экспазіцыі — усё лепшае, чаго дасягнула выяўленчае мастацтва Савецкай Беларусі за апошні час.

Абмеркаванне выстаўкі дасць магчымасць майстрам мастацтваў акрэсліць перад сабой новыя, больш складаныя задачы, формы і метады іх здзяйснення. Мы спадзяёмся, што грамадская думка аб экспазіцыі гэтай выстаўкі дапаможа беларускім мастакам найлепшым чынам падрыхтавацца да выстаўкі «СССР — наша Радзіма», якая адбудзецца ў дні святкавання 50-годдзя СССР.

У сувязі з занальнай выстаўкай і з выстаўкамі, якія за ёй адбудуцца, патрэбна вялікая канструктыўная праца па далейшым удасканаленні спосабаў вырашэння тых творчых праблем, якія ставіць жывая практыка нашага выяўленчага мастацтва. Вялікая карысць была б, калі б у асэнсаванні здабыткаў нашага мастацтва і таго, што яшчэ трэба яму здабываць, праявілі б сапраўдную творчую актыўнасць не толькі крытыкі і мастацтвазнаўцы нашай рэспублікі, але і самі мастакі.

Па-гаспадарску клапатліва абмяркоўваючы нашы здабыткі і нашы пралікі, імкнучыся пастаянна ўдасканальваць на аснове марксісцка-ленінскага дыялектычнага метаду крытэрыі ацэнак разнастайнага і складанага сучаснага творчага працэсу, мы павінны пасля кожнай выстаўкі рабіць істотны крок наперад — рабіць вывады, карысныя для штодзённай практыкі нашага мастацтва.

Менавіта аб гэтым думаеш у сувязі з вялікай справаздачай беларускага савецкага мастацтва.

Абмеркаванне выстаўкі — наперадзе. І наперадзе — вывады з гэтага абмеркавання.


Л. ГУМІЛЕЎСКІ. Партрэт артысткі Бендавай.


В. АРАКЧЭЎ. Брэсцкая крэпасць.

ЧАСОПІС ВЫЙШАЎ У СВЕТ ЧАСОПІС ВЫЙШАЎ У СВЕТ ЧАСОПІС ВЫЙШАЎ У СВЕТ

# ЗА СПЛАЎ ДУМКІ І ПАЧУЦЦЯ

**ГАРТАЮЧЫ «КРЫТЫЧНЫЯ» СТАРОНКІ «ПОЛЫМЯ»**

Рэпутацыю саліднага, аўтарытэтнага выдання «Полымя» падтрымлівае не толькі раздзеламі прозы, паэзіі і нарыса, але і раздзеламі крытыкі і літаратуразнаўства. Што гэта сапраўды так, пацвярджае і другая, лютаўская кніжка «Полымя» за гэты год.

Уражвае ўжо сам аб'ём літаратуразнаўчых і крытычных матэрыялаў нумара — яны займаюць амаль чвэрць часопіснай плошчы. Галоўнае ж у тым, што многія з гэтых матэрыялаў зроблены на добрым, «палымянскім» узроўні і ўспрымаюцца з той жа чытацкай зацікаўленасцю і хваляваннем, як і лепшыя паэтычныя і празаічныя старонкі нумара (у дадзеным выпадку маю на ўвазе адметныя ў сваёй настраёвасці і глыбакадумнасці апавяданні Я. Брыля «З новай кнігі», натуральныя па жыццёвай плыні апавяданні Ул. Карпава з яго кнігі «Прызнанне ў нянавісці і любові», пякучыя радкі паэмы А. Бялевіча «Гарынь» і арыгінальную нізку вершаў «паэтаў чырвонай Лодзі»). Аднак перш чым зрабіць кароткі агляд крытычных і літаратуразнаўчых выступленняў у лютаўскай кніжцы «Полымя» — невялічкае адступленне.

У гаворцы аб стане нашай крытыкі, якая адбылася на старонках газеты «Літаратура і мастацтва», а таксама на нядаўнім пленуме праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі, прысвечаным гэтаму ж пытанню, гарачыя спрэчкі выклікала праблема суб'ектыўнасці і аб'ектыўнасці ў крытыцы. І ўдзельнікі лімаўскай дыскусіі, і прамоўцы на пленуме адзінадушна пагаджаліся на тым, што крытык у ацэнцы з'яў і фактаў літаратуры павінен імкнуцца да аб'ектыўнасці, рабіць літаратуразнаўчы аналіз твора на аснове аб'ектыўных законаў мастацкай творчасці. З другога боку, падкрэслівалася, што крытык — не статыстык, не бясстрасны рэгістратар, не суддзя ад літаратуры, а мастак, які творыць па тых жа законах мастацтва, што і пісьменнік, і што зацікаўленасць, душэўны водгук чытача выклічуць толькі тыя крытычныя працы, у якіх б'ецца і пульсуе жывая думка даследчыка, у якіх праяўляюцца яго чалавечыя сімпатыі і антыпатыі, яго ўласная канцэпцыя жыцця і часу.

Зірнем, зыходзячы з гэтага, на матэрыялы, змешчаныя ў часопісе пад звычнымі палымянскімі рубрыкамі «Крытыка і літаратуразнаўства», «Сярод кніг» і «Кароткія рэцэнзіі».

Найперш, хочацца адзначыць артыкул Р. Бярозкіна «Купала. Багдановіч, руская паэзія». Артыкул гэты — аб узаемадачыненні нашых двух найвялікшых мастакоў слова, аб прыродзе іх таленту («Янка Купала і Максім Багдановіч — два «духоўныя характары», два тыпы творчай культуры, аднолькава ўзрошчаныя рэвалюцыйным часам, і розніца паміж імі — розніца паміж многімі аспектамі часу, яго шматлікімі вымогамі і задаткамі»), аб традыцыях рускай рэвалюцыйна-дэмакратычнай паэзіі ў творчасці беларускіх паэтаў. Зрэшты, тэму, пазначаную ў назве артыкула, крытык не вычэрпвае, ён закранае толькі адзін яе аспект — Купала і Някрасаў. Пра тое, як «някрасаўскае» («у абалонцы нейкай іншай тыпам і кірункам паэтычнай культуры») праяўляецца ў творчасці Багдановіча, даследчык абяцае паразважаць у наступным артыкуле.

Артыкул «Купала, Багдановіч, руская паэзія» — арганічны сплаў думкі і пачуцця крытыка-даследчыка, надзвычай змястоўны, багаты на роздум, на тонкія назіранні і цікавыя высновы. Захоўваючы, так сказаць, высокую ступень навуковасці (аргументаванасць высноў, палеміка з іншымі даследчыкамі, спасылкі на аўтарытэты), крытык не хавае сваёй улюбёнасці і чыста чалавечай зацікаўленасці прадметам даследавання, і яго пачуццёвая думка вядзе за сабой чытача.

Паэзія Купалы і Багдановіча — з'ява, канечне, непераходная, яна жыве і вечна будзе жыць у нашым народзе. Крытык гаворыць пра даўні час, пра пачатак нашага стагоддзя, прасочвае шляхі станаўлення «духоўных характараў» двух волатаў роднай літаратуры. Ды — дзіўная рэч: разважанні і высновы даследчыка (прынамсі, многія з іх) гучаць надзённа і актуальна. Нагадаю толькі некаторыя, магчыма, не галоўныя моманты.

У аўтабіяграфічных нататках Купала пісаў пра Багдановіча: «З першых жа вершаў яго я адчуў у ім шчырага паэта, але захапіцца ім, як, магчыма, ён таго заслугоўвае, я не мог — вельмі ўжо па-рознаму мы пісалі». Са свайго боку, Багдановіч, высока ацэньваючы талент Купалы, у многім не пагаджаўся з ім, палемізаваў, нават адмаўляў некаторыя рысы і асаблівасці яго паэтычнага стылю. Нагадаўшы гэтую акалічнасць, даследчык заўважае (і не пагадзіцца з ім немагчыма): «Такі пісьменніцкі суб'ектывізм — зусім натуральная з'ява, ён — сведчанне і паказчык нармальнага літаратурнага развіцця, якое не можа адбывацца інакш, як толькі праз вольнае спаборніцтва, а часам і спрэчкі розных творчых індывідуальнасцяў». Альбо вось другая заўвага крытыка: аб тым, што трэба паважаць творчую спадчыну класікаў, аб тым, што гэтай павазе не спрыяе «іерархія і ранжыр жыццёвых абліччаў» іх. Як жа дарэчы яна, гэтая заўвага, сёння, калі, нядаўна адзначыўшы 80-гадовы юбілей Багдановіча, мы рыхтуемся ўрачыста адзначыць 90-годдзе з дня нараджэння Купалы і Коласа! І яшчэ адну думку крытыка хочацца нагадаць. «Эстэтычнае ў Багдановіча (ва ўсякім разе, у лепшых яго творах),— піша Р. Бярозкін,— нязменна сцвярджае сацыяльна справядлівае і гуманістычнае». Гэтая думка таксама гучыць надзённа.

Сярод рэцэнзій, што змешчаны ў лютаўскім нумары «Полымя», я вылучыў бы рэцэнзію Б. Бур'яна на выбранае Б. Сачанкі. Карыстаючыся выпадкам, рэцэнзент гаворыць не толькі пра тое, што Б. Сачанка палічыў патрэбным уключыць у кнігу свайго выбранага, а кідае позірк на ўвесь творчы шлях пісьменніка, вызначаючы на гэтым шляху тыя галоўныя вехі, якія выяўляюць адметнасць таленту празаіка, своеасаблівасць яго голасу ў сучаснай беларускай прозе. Акцэнты, якія расстаўляе крытык, уяўляюцца нам справядлівымі, а вывады — слушнымі. Пэўную нязгоду выклікаюць толькі два моманты. Пагаджаючыся ўвогуле з тым, што ў прозе Б. Сачанкі сям-там праглядваюцца літаратурныя рэмінісцэнцыі, усё ж здаецца, што крытык занадта сурова паставіўся да аповесці «Пакуль не развіднела». Думаецца, што і ў апавяданні «Дзік-бадзяга» нявартa шукаць, няхай сабе і далёкіх, апасродкаваных уплываў Д. Лондана, Д. Олдрыджа, Э. Хемінгуэя. Што, аднак, хочацца падкрэсліць асабліва, дык гэта тое, што рэцэнзія напісана з глыбокай зацікаўленасцю, з хваляваннем, з адчуваннем асабістасці разумення і ўспрымання творчасці аднаго з нашых цікавых празаікаў.

Рэцэнзія Р. Семашкевіча на кнігу І. Баса «Падарожжа ў літаратурнае мінулае» цікавая дасведчанасцю рэцэнзента ў фактах і з'явах літаратурнага жыцця XIX стагоддзя, кампетэнтнасцю яго размовы і спрэчак з аўтарам — даследчыкам сувязей рускай, беларускай і польскай культур.

Сур'ёзнасцю, прынцыповасцю гаворкі вылучаецца рэцэнзія Г. Шупенькі на кніжку прозы М. Даніленкі «Наш дом». Рэцэнзент, не закрэсліваючы цалкам творчасць пісьменніка, спрабуе разабрацца ў прычынах яго многіх няўдач, тактоўна раіць празаіку не збівацца на белетрызацыю сапраўды важных сучасных тэм, не спрашчаць складаныя праблемы жыцця. Вартасць рэцэнзіі Г. Шупенькі і ў тым, што сказанае тут пра М. Даніленку лёгка праецыруецца на іншых пісьменнікаў, якія таксама не заўсёды абцяжарваюць сябе глыбокай распрацоўкай характараў, пошукамі дакладнага і свежага слова.

І. Лушчыцкі і А. Круглоў рэцэнзуюць «Нарысы гістарыяграфіі Бібліі і ранняга хрысціянства» Г. Ліўшыца, але, на жаль, рэцэнзія іх носіць чыста анатацыйны характар. У асноўным анатацыйная рэцэнзія Л. Малаш і А. Аксамітава на даследаванне Н. Махнач «Ідэйная барацьба ў Беларусі ў 30—40 гадах XIX стагоддзя».

Купалаўскія традыцыі ў нашай паэзіі жывыя і трывалыя, праблема гэта надзённая і хвалюючая. І, пэўна ж, невыпадкова яна стала тэмай даследавання М. Яроша. На жаль, рэцэнзія М. Грынчыка на яго кнігу «Янка Купала і беларуская паэзія» напісана сумнавата, у ёй пераважае пераказ асноўных палажэнняў даследчыка.

У заключэнне некалькі слоў пра рэцэнзіі на мовазнаўчыя кнігі. Іх у нумары змешчана дзве: А. Наркевіч і А. Шыдлоўскі пішуць пра кнігу «Развіццё складаназалежнага сказа ў беларускай мове» А. Груцы, а В. Лемцюгова — пра «Мікратапанімічныя назвы» Я. Адамовіча. Напісаны яны прафесійна, але, думаецца, крышачку не ў «палымянскім» ключы: яны больш прыдатны для спецыяльнага мовазнаўчага часопіса ці навуковага бюлетэня. Для «Полымя», якое адрасуецца масаваму чытачу, рэцэнзіі на такія і падобныя да іх кнігі павінны, мне здаецца, насіць больш «практычны», а не чыста мовазнаўчы характар.

**К. РАГОВІЧ.**

# НА ПАЧАТКУ ДАРОГІ

Малады аўтар заўсёды мае вострую патрэбу ў слове крытыка. Ён чакае з незвычайна-трапяткім хваляваннем водгуку на свае першыя літаратурныя спробы, на сваю першую кніжку. Такая ўжо логіка творчасці: неабходна ацэнка, бескампрамісныя заўвагі аб мастацкіх вартасцях твора, пэўная падтрымка. Без гэтага наогул цяжка ўявіць творчы рост пачаткоўца.

І ўсё ж яшчэ далёка не заўсёды дапамога пачаткоўцу прыходзіць своечасова. На шляху творчых пошукаў аўтару часцяком, як паветра, не хапае менавіта аб'ектыўнага слова крытыка. Прыгадваецца, аб гэтым гаварылі зусім нядаўна на пленуме па крытыцы: няма пакуль у нас крытычных аглядаў, якімі славілася руская рэвалюцыйна-дэмакратычная крытыка яшчэ з часоў Бялінскага, паэтам даводзіцца нярэдка самім абслугоўваць сябе — выступаць з артыкуламі аб творчасці свайго сабрата па пяры...

У гэтым сэнсе выклікаюць пэўную цікавасць нататкі А. Грачанікава аб творчасці пачаткоўцаў «Крылы дужэюць у палёце», якія змешчаны ў лютаўскім нумары часопіса «Неман».

У выдавецтве «Беларусь», як вядома, ужо некалькі гадоў выходзіць серыя «Першая кніга паэта», невялічкія паэтычныя зборнікі пачаткоўцаў — рабочых, калгаснікаў, служачых... У мінулым годзе ў гэтай серыі дэбютавалі сем аўтараў: Валянціна Коўтун, Мікола Мінчанка, Марыя Шаўчонак, Нэла Тулупава, Мікалай Янчанка, Ніна Шклярава, Васіль Пак. І зусім зразумелая цікавасць аўтара нататак да новых імёнаў: што гэта за паэты, як яны глядзяць на жыццё, на свет, з чым ідуць, зрэшты-рэшт, у літаратуру?

Спрабуючы добрасумленна разабрацца ў творчасці пачаткоўцаў, А. Грачанікаў засяроджвае ўвагу не толькі на вельмі важных для маладых пытаннях майстэрства, але і на тым, наколькі змястоўная гэта паэзія наогул. І першы вывад, які ён робіць, далёка не суцяшальны, трывожны: паэзія пачаткоўцаў значна адстае ад задач дня... У чым жа прычына? Аўтары — несумненна здольныя, таленавітыя, з добрай тэарэтычнай падрыхтоўкай, за плячамі ў кожнага — вышэйшая навучальная ўстанова. Але ці дастаткова аднаго таленту, каб увасобіць **героя нашага часу**, яго багаты духоўны свет у мастацкіх творах? Відаць, у наш атамны век, калі жыццё «падкідвае» літаратуры ўсё новыя праблемы, акрамя таленту, у мастака павінен быць высокі інтэлектуальны, філасофскі ўзровень. Дарэчы А. Грачанікаў прыгадвае тут вядомае выказванне Пісарава, што сапраўдны паэт павінен разумець, ведаць усё, што ў дадзеную хвіліну цікавіць самых лепшых, самых разумных і адукаваных прадстаўнікоў яго веку і яго народа.

Але варта б было ў артыкуле прывесці гэтую красамоўную цытату цалкам, таму што яна асвятляе нам і другі бок медалю, у ёй востра закранаецца вельмі важнае і актуальнае пытанне аб месцы паэта ў грамадстве: «Паэт — вялікі змагар думкі... «рыцар духу», ці ж паэт — нікчэмны паразіт, які пацяшае іншых нікчэмных паразітаў дробязнымі фокусамі бясплённага фіглярства. Сярэдзіны няма. Паэт-тытан, які сатрасае горы векавога зла, ці паэт-казяўка, што корпаецца ў кветкавым пыле». Сказана магчыма, рэзкавата, але як трапна, як важка! Кожнаму пачаткоўцу неабходна ўсвядоміць тыя высокія грамадзянскія ідэалы, дзеля якіх варта жыць, змагацца, гарэць... Кожнаму, хто імкнецца быць сапраўдным паэтам свайго часу.

Але як жа ў гэтым сэнсе справы ў аўтараў «Першай кнігі паэта»? Шчыра кажучы, не вельмі. Пішуцца вершы маладымі неяк ужо надта лёгка, без асаблівага пачуцця адказнасці за паэтычнае слова. З горыччу А. Грачанікаву прыходзіцца канстатаваць: «Нават бегла пазнаёміўшыся з вершамі большасці пачаткоўцаў, не цяжка заўважыць, што іх творчыя інтарэсы абмяжоўваюцца невялікім «пятачком». Па тэматыцы іх вершы можна нават згрупаваць: аб роднай вёсцы, аб студэнцкіх гадах, першым каханні, дзяцінстве...» Дзе ўжо тут гаварыць аб глыбокім пранікненні ў сутнасць жыццёвых з'яў, калі нярэдка «за радкамі не бачна аўтара, як асобы, — са сваім светаўспрыманнем, уласнымі пошукамі, трывогамі, перажываннямі!» Асабліва насцярожвае справядлівая заўвага, што некаторыя пачаткоўцы ідуць у літаратуру не ад уласнага вопыту, а ад літаратуршчыны, ад зададзенасці...

Між тым, юнацкі ўзрост даўно мінуў для ўсіх сямі аўтараў (ёсць сёння сярод іх і саракагадовыя!), накоплены дастатковы жыццёвы вопыт, павінна быць і адпаведная жыццёвая мудрасць — разуменне тых надзённых важных задач, якія стаяць перад усімі савецкімі людзьмі, перад кожным з іх паасобку.

Трэба аддаць належнае аўтару артыкула: ён вельмі добрасумленна і скрупулёзна імкнецца знайсці, адзначыць і падтрымаць усё станоўчае ў творчасці пачаткоўцаў... У Н. Шкляравай гэта — «няхітрыя, даверлівыя інтанацыі, імкненне гаварыць шчыра, проста»; у Н. Тулупавай, вершы якой уяўляюцца больш спелымі, — жаданне расказаць «аб людзях высакароднай прафесіі — урачах»; у В. Коўтун — «вобразнае мысленне, інтуітыўнае пачуццё меры і шматзначнасці слова»; у М. Шаўчонак — «вера ў чалавечую дабрату» і г. д. Ёсць свая логіка і ў сцвярджэнні аўтара артыкула, што ў нашай літаратурнай моладзі — вялікія магчымасці, што «крылы дужэюць у палёце»... Аднак бясспрэчна: гэты творчы палёт трэба камусьці больш клапатліва накіроўваць — той жа секцыі паэзіі СП БССР, нарэшце, рэдактарам у выдавецтве. Калі А. Грачанікаў, аналізуючы творчасць М. Мінчанкі, піша, што з усяго яго зборніка «Вячэрні звон» па сутнасці ўражвае толькі адзін-адзіны верш, а астатняе патанае ў патоку шэрасці, апісальніцтва, гэта здаецца зусім неверагодным... І тут усхвалявана думаецца аб тым, як несур'ёзна, мякка кажучы, рэдагуюць у нас кнігі маладых, як, ад гэтага ўрэшце-рэшт нясуць маральныя страты і чытач, і аўтар. А тыя ж пажаданні, якія выказвае са спасылкай на канкрэтныя прыклады А. Грачанікаў аўтарам сямі кніжак, — вызваляцца з палону ненатуральнасці, дэкларатыўнасці, дробнатэм'я, больш давяраць уласнаму пачуццю, пазбягаць запазычанняў і г. д. — усе ж гэтыя пажаданні, заўвагі павінны былі хоць у нейкай ступені рэалізаваць рэдактары, калі кнігі знаходзіліся яшчэ ў рукапісах.

У канцы артыкула вельмі слушна акцэнтуецца ўвага на пытанні грамадзянскасці, як найбольш важнай якасці ўсёй паэзіі. Аўтар зазначае: «у маладых паэтаў адносна зацягнуўся працэс выспявання грамадзянскасці», у чым, па сутнасці, іх няздатнасць «глыбока пранікнуць у багаты і складаны духоўны свет нашага сучасніка». Думаецца, што гэтым, менавіта гэтым, у першую чаргу тлумачацца тыя творчыя пралікі і няўдачы аўтараў першых кніжак, аб якіх з веданнем справы гаварылася ў артыкуле. Грамадзянскасць — душа паэзіі.

**Я. ІВАНОЎ.**

# РАЗМОВА ПА ШЧЫРАСЦІ

У ХВЕДАРА Чэрні, можна сказаць, зайздросны выдавецкі лёс. Дэбютаваў ён у 1966 годзе кнігай «Добрай раніцы, людзі!», а праз якія чатыры гады меў ужо тры ўласныя кнігі. Што ж, гэта добра, скажам мы, але пры адной умове: калі паэт не губляе пачуцця адказнасці за сваё слова, калі ён плённа працуе, калі ён відавочна расце і сталее, калі паглыбляецца і ўзбагачаецца яго бачанне свету і ўдасканальваюцца сродкі паэтычнай выразнасці.

Ці можам мы сцвярджаць гэта ў дачыненні да Хв. Чэрні, кідаючы позірк на ўсе яго тры кнігі? З адказам спяшацца не будзем. Адразу зробім толькі агаворку: мы не збіраемся, крый божа, вымагаць ад паэта, каб кожны яго наступны твор быў лепшы за папярэднія. На творчым шляху бываюць няўдачы і ў самых выдатных паэтаў. Але нам важна адчуваць, ад чаго нараджаюцца гэтыя няўдачы. Няўдачу можна дараваць і нават апраўдаць, калі яна—звяно ў ланцугу паэтавых пошукаў, але нельга, калі яна сведчыць, што аўтар дазволіў сабе палёгку, калі ён не выдаткоўваў на твор усіх сваіх душэўных сіл, калі ён, зрэшты, страціў у сабе самім свежае адчуванне жыцця і свету, своеасаблівую чуйнасць мастака.

Хв. Чэрня—паэт, безумоўна, здольны. Крытыкі, праўда, не пляскалі ў ладкі, калі выйшла ў свет яго першая кніга, але ўсё ж знаходзілі ў ёй шматабяцальныя парасткі. Былі ў кнізе (хай і не багата) вершы, з якіх бачыўся душэўны і біяграфічны вопыт паэта. Было юначае захапленне светам, дарогамі, вандроўкамі, прага кахання, жаданне жыць напоўнена і адказна, былі—няхай сабе і не вышэйшага мастацкага гатунку—творчыя знаходкі, якія вялі нас у жыццё сваімі адметнымі эмацыянальна-выбранымі сцяжынамі. Была ў кнізе (хаця часам і разрэджвалася шматслоўем, рыторыкай, банальшчынай) атмасфера юнацтва і працы, народжаная ўласным жыццёвым вопытам (маладому паэту давялося папрацаваць пасля школы на Мінскім аўтазаводзе).

Але на фоне нешматлікіх удач было відно, як часта задавольваецца паэт прыблізнымі паэтычнымі рашэннямі, як не заўважае жыццёвых складанасцей, як цягне яго на штамп, як багата ў яго вершах нядбайных, няўклюдных, творча бездапаможных радкоў. Пра ўсё гэта пісалі ў свой час рэцэнзенты...

На жаль, пра гэта даводзіцца гаварыць і зараз, калі паэт мае тры кнігі. І, калі гаварыць зусім шчыра, мяне найбольш насцярожваюць ужо не самі па сабе выпадкі няўмельства (можна яшчэ навастрыцца, набіць, як кажуць, руку), як нейкі душэўны разрыў паміж жыццёвым, пачуццёвым матэрыялам вершаў і тымі літаратурнымі шляхамі, па якіх ідзе Хв. Чэрня.

Ён гаворыць пра дабрату (назва яго другой кнігі «Дабрэе свет»), сцвярджае чалавечую чуласць, дэкларуе ўвагу і душэўнасць, ваюе з чэрствасцю... Каго не пакліча ўсё гэта на актыўнае суперажыванне? Ды... у многіх вершах Хв. Чэрні, на жаль, не кліча. Чаму? Пачытаем паэтаву другую кнігу:

Ясната, ясната,
Ні хмурынкі нідзе,
Як мая дабрата
Між харошых людзей.
Сонца ў небе плыве
І праз сэрца плыве,
Песняй пырхае радасць
У густой сіняве.

. . . . . . . . . . . . .

О, каб ды культам узаемнасці
З'яднаць вас, людзі, між сабой:
Скідайце ўсё—кашулі чэрствасці,
Сукенкі зману і нявернасці—
І будзьце сутнасцю сваёй.

Забудзьце ўласнае і прагнае,
Забудзьце ўсё, чаго не знаць.
Накрыйцеся адзінай праўдаю
І спіце людзі. Спаць, спаць...

. . . . . . . . . . . . .

І храпе паўпланеты
Так, што чуе сусвет.

(«Трыпціх»).

Што нам абвешчаная ў вершы дабрата, калі яна нічога не каштуе паэту, калі яна з'яўляецца да яго ў выглядзе ідылічнай, стылізаванай радасці («песняй пырхае радасць»), калі яна не мае судакранання з рэальным, неідылічным светам чалавечых турбот і трывог? Што нам рытарычна-літаратурны пафас «узаемнасці», калі ён выявіўся ў таннаЛітаратурных «вобразах» (дарэчы, па-мяшчанску двухсэнсоўных: «скідайце... сукенкі зману і нявернасці»)? Усё тут выпадковае, дробнае, незабяспечанае чалавечым перажываннем. Адсюль, мусіць, і гэтае душэўна неўспрымальнае пышнаслоўе: «О, каб ды культам узаемнасці...», якое цяжка выгаворваецца, але лёгка даецца паэту. Складваецца ўражанне, што Хв. Чэрня толькі імітуе складанасць успрыняццяў, філасафічнасць і глыбіню мыслення.

Чытаем такое:

Геніі—яны зусім не геніі:
Іх прызнаюць. Яны не прызнаюць,
У іх таксама—беды і трагедыі,
Яны і віны і гарэлк п'юць...

«Тонкае разуменне генія»—не можаш устрымацца ад усмешкі.

Дзень-ноч, ноч-дзень,
Як дзінь-дон, дон-дзінь,
Спрадвеку ішло, ідзе
І будзе вечна хадзіць, —

гэта ўжо, так сказаць, узор асэнсавання плыні часу.

Хв. Чэрня ўсё супастаўляе з той павярхоўнай упэўненасцю, што ўласціва найперш халодным версіфікатарам:

І з той жа мужнасцю і верай
Я ў сорак першым бой даваў,
З якой мой дзед хадзіў на звера
І прадзед хлеб свой здабываў.

(«Зямля»).

Няхай даруе мне паэт, але ж аб'ектызаваны герой верша выказваецца тут надта ж у духу і стылі самога Хв. Чэрні.

І яшчэ колькі радкоў з верша «Возера было блакітна-шэрае...»:

Ах, бяда, бяда мая і гора,
Дык плыві ж ка мне хутчэй, плыві,
Расхвалюй маіх пачуццяў мора,
Ускалышы мой акіян крыві.

Хто давядзе нам, што гэта (пачуццяў мора», «акіян крыві») не літаратуршчына?

Апошняя кніга Хв. Чэрні—паэма «Размова з памяццю». Паводле анатацыі, яна «прысвечана барацьбе працоўных былой Заходняй Беларусі за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, геройчным подзвігам савецкіх людзей у гады Вялікай Айчыннай вайны, светламу дню нашай Перамогі над фашысцкімі захопнікамі, дружбе і міру на зямлі». Што такое анатацыя—усім вядома, кпіць з анатацыі сёння ўжо надакучыла. Але ўсё ж, нягледзячы на гэта, анатацыя ўражвае.

Так, Хв. Чэрня напісаў паэму, сюжэтны твор з паслядоўным развіццём падзей, аб'ектывізаванымі вобразамі, мастацкімі абагульненнямі, аўтарскімі адступленнямі—адным словам, з усім тым, што дазваляе выкарыстоўваць гэты жанр.

Маштаб падзей сапраўды глабальны, паэт ахоплівае зрокам, можна сказаць, цэлую гістарычную эпоху—ёсць прастора для абагульненняў і роздуму. Але пачытаем паэму. Вось якімі словамі падае аўтар перадгісторыю герояў—сыноў старога Мацея, музыкі з цяжкім лёсам селяніна заходнебеларускай вёскі:

**А выраслі—ад бацькі**
**Пайшлі ў чужыя вёскі прымакамі,**
**Дзе пілавалі іх і грызлі як сабакі,**
**І вылі ночы ля дзвярэй ваўкамі,**
**О, лёс музыкаў!**

Некалькімі надзвычай «дакладнымі і выразнымі» радкамі прадстаўляе Хв. Чэрня галоўнага героя твора Міхася, які рос здольным музыкантам:

**Здавалася, ігралі толькі рукі,**
**Здавалася, дзве доўгія рукі**
**Са струн спацелых вырывалі гукі**
**І ў душы забівалі, як цвікі...**
**Смычком ён пілаваў усіх, хто**
**скача...**

Дзеянне паэмы разгортваецца паступова. Вось Міхась сустрэў першае, незабыўнае каханне, але бацькі-багацеі Яніны не разумеюць яго пачуццяў, і каханыя не могуць быць разам: «І стала невыносным расставанне, а там, на дне душы, тайком **і злосць яго, і крыўда, і каханне спляліся, нібы гадзіны, клубком».**

Адбываюцца вялікія гістарычныя падзеі, што не абмінулі і герояў паэмы. Прыйшло вызваленне з Усходу. І тут радкі паэмы запалоньвае рыторыка, пафаснасць якой не судакранаецца з перажываннямі персанажаў, яна існуе ў творы сама па сабе, узятая з гатовых літаратурных узораў, накшталт: «Чырвань сцягоў шчаслівых збірала братоў у паход».

На долю Міхася выпадае шмат выпрабаванняў. Вось выходзіць замуж за другога ягоная Яніна, і аўтар, узрушаны больш за героя, адгукаецца на гэтую падзею чулліва-прыгожай гірляндай роспачы: «Твой жа плач—гэта твой палач—ён карае цябе самую, і ў апошнюю аж хвіліну галава твая упадзе, упадзе на чужую раўніну маладых ды нямілых грудзей».

Услед за гэтым паэт лічыць неабходным выказацца пра сэнс і змест кахання. Але як жа прыгожа, зноў-такі, ён гэта робіць: «Каханне! Колькі ты сагрэла душ чалавечых у агні сваім, ты вечным полымем заўжды гарэла прад помнікам пачуццям залатым... Каханне, ты сляпым падчас бываеш, як невідучы часам робіць крок туды, дзе не было ніколі ямы, так робіш ты апошні крок таксама. І гэта ўжо не крок, а гэта рок... Цябе ўсяго прыстрэліць давялося, цябе ніяк застрэліць не маглі...» Гэты «рок» кахання вісіць над героем, «ластаўкі душэўных парыванняў» носяць у паветры вобраз Яніны. «І каб не чуць іх, з дому крочыў, нібы да сябра, ў магазін, дзе ў рот адну, другую кроплю браў са знаёмым ці адзін».

Пазней, ужо на будоўлі, дзе працуе Міхась, яму прыглянулася памочніца. І чытач з палёгкай уздыхае, даведаўшыся з «жартаўлівых» намёкаў, што хутка мае адбыцца перамена ў жыцці героя:

Сама ж падсаджвалася з боку
у абед.
Плылі ў туманы з-пад сукенкі ногі.
І Мішка часам, гледзячы услед,
Казаў сабе:
«А мо яно й нічога б...»

Можа, хопіць, дарагі чытач? Павер, што ўсё гэта цытуецца без усялякай прадузятасці, можна было б прыводзіць і шматлікія іншыя мясціны, бо амаль увесь твор напісаны вось у такім пярэста-разыходным стылі, запалонены адвольнымі і беззмястоўнымі прыпадабненнямі, перыпетыі. паэмы сканструяваны таксама адвольна і пазбаўлены рэальнага псіхалагічнага зместу. Відавочна, што паэт, узяўшыся за вялікае мастацкае палатно, не меў сваёй—арыгінальнай і спелай—мастацкай задумы, не меў сваёй уласнай канцэпцыі жыцця і часу. У выніку вельмі многія старонкі паэмы «скляпаны» так-сяк і наўскасяк.

Не, не ўсё ў «Размове з памяццю» заслугоўвае адмоўнай ацэнкі. Часам (у асобных лірычных адступленнях, напрыклад) слова паэта набывае чысціню і выразнасць, і радкі пачынаюць свяціцца паэзіяй, часам паэт бывае праніклівы і душэўна чулы, часам ён умее павесці сюжэт. Аднак...

Аднак Хв. Чэрню, мне здаецца, калі ён не хоча страціць увагі чытача, трэба ставіць перад сабой рэальныя мастацкія задачы, трэба вучыцца ўменню бачыць жыццёвую праўду, трэба не зрэдзь часу, а заўсёды быць паэтам, а не версіфікатарам. Гэта нам не заўсёды ўдаецца, але ці не занадта часта мы самі і вінаваты ў гэтым? Кажу гэта з усёй шчырасцю, бо звяртаюся не толькі да Хв. Чэрні, але і да маіх равеснікаў-паэтаў і да самой сябе.

Адказнасці нам трэба больш, адказнасці! Мусіць, калі мы будзем бліжэй да людзей, нашых сучаснікаў, да іх рэальных спраў і клопатаў, у нас будзе намнога менш закоўзаных лірычных сцежак, «пралесак кахання», усялякага зграбнамілага ці коснаязыкага пышнаслоўя, а больш той жывой надзённасці, якая заўсёды адна толькі і з'яўляецца матэрыялам і зместам сапраўднай паэзіі.

**Вера ВЯРБА.**

# ШКЕЛЬЦЫ Ў МАЗАІЧНЫМ МАЛЮНКУ

Стала банальным гаварыць пра вялікую цікавасць сучаснага чытача да мемуарна - дакументальнай літаратуры. Ёсць такая цікавасць і ў гарачых прыхільнікаў мастацтва: яны палююць на яе ў кнігарнях і прагна гартаюць старонкі ўспамінаў акцёраў, мастакоў, кампазітараў, кінематаграфістаў, рэжысёраў. Такая літаратура пашырае веды і ўзбагачае кожнага з нас разуменнем і мінулага, і сённяшняга стану таго ж тэатральнага або выяўленчага мастацтва.

Разгарніце, скажам, «Мазаіку мінулага» некалі вядомай на ўсю краіну кінаактрысы Галіны Краўчанка, і вы адразу пабачыце рэдкія здымкі Юрыя Тарыча, Ул. Корш-Сабліна, І. Пыр'ева тых часоў, калі на экран выходзіла аповесць Міхася Чарота «Грышка-свінапас» («Лясная быль»), стваралася эпічная гісторыка - рэвалюцыйная мастацкая стужка «Першы ўзвод» (у пракаце яна мела яшчэ назву «Заходні фронт»), нараджаўся фактычна першынец кінаапавядання пра адважных эпронаўцаў - падводнікаў «Шлях карабля» з папулярнай песняй маладога тады кампазітара, які стала супрацоўнічаў з фабрыкай «Белдзяржкіно», І. Дунаеўскага... Мабыць, і адны толькі гэтыя факты і імёны звернуць на сябе ўвагу ўсіх, хто любіць наша кінамастацтва, сочыць за яго гісторыяй і хоча ведаць яе як мага лепш.

Лёс актрысы кідаў Г. Краўчанка з адной студыі на другую, яна здымалася ў так званых «баявіках»—прыгодніцкіх стужках, у гістарычных фільмах, іграла ролі гераічныя і камедыйныя. Таму на яе старонках многа наогул тых здарэнняў, якія нібыта прыадкрываюць дзверы на «творчую кухню», выклікаюць у чытачоў і ўсмешку, і абуджаюць пачуццё павагі да самаахвярных «працаўнікоў экрана». Але калі гаварыць пра «скразную дзею» кнігі, варта звярнуць увагу на такую акалічнасць: Г. Краўчанка знаёміць нас са станаўленнем савецкай школы выхавання акцёра і рэжысёра кіно, школай, якая спачатку выхавала майстроў «вялікага нямога», а потым, без перапынку для перабудовы, у працэсе вытворчасці фільмаў, і значных артыстаў гукавога кінематографа. Аўтару выпала авалодваць сакрэтамі мастацтва дзесятай музы — кіно — разам з Міколам Садковічам, Львом Голубам, Розай Свярдловай, Алегам Жакавым, Барысам Бабачкіным і многімі іншымі славутымі дзеячамі, якія пакінулі яркі след у развіцці беларускага кінематографа.

Да вартасцей кнігі трэба аднесці яе шырокі далягляд. Расказваючы, напрыклад, пра тарычаўскую стужку «Шлях карабля», Г. Краўчанка палічыла патрэбным не толькі назваць сцэнарыста (вядомы празаік і падарожнік І. Сакалоў-Мікітаў), а і раскрыць змест літаратурнай першакрыніцы, якая натхняла рэжысёра і выканаўцаў роляў. Упрыгожваюць старонкі кнігі і лірычныя інтанацыі, нават тыя, дзе ёсць адценне зразумелага суму, — скажам, пра «Грышку-свінапаса» аўтар піша і так: «Зусім нядаўна ў Мінску я з пачуццём задавальнення і некаторым здзіўленнем глядзела гэты фільм, назіраючы за галаваломнымі трукамі, якія мы рабілі з маладым Л. Данілавым, выканаўцам ролі партызанскага разведчыка Грышкі...»

Ад шырока папулярнай калісьці «Аэліты» рэжысёра Я. Пратазанава да «Вайны і міру» С. Бандарчука — такая панарама савецкага кінематографа ў нейкіх істотных і жывых рысах адлюстравана Г. Краўчанка. Яна расказвае пра тых, з кім ёй пашчасціла запаўняць першыя і такія яркія старонкі гісторыі гэтага масавага мастацтва, яна ўспамінае тое, у чым удзельнічала і што перажыла сама. Беларускі чытач будзе ўдзячны аўтару і за тыя шкельцы ў яе «Мазаіцы мінулага», дзе адбіліся падзеі і людзі, чыя творчасць звязана з кінематаграфіяй нашай рэспублікі, і за змястоўную кнігу наогул.

**В. ІВІН.**

Г. Краўчанка. «Мазаіка мінулага» (расказвае кінаактрыса). На рускай мове. Выдавецтва «Искусство». Масква. 1971.

# ГАЙДН СЛАВІЦЬ ЖЫЦЦЁ

*ПРЭМ'ЕРА АРАТОРЫІ «ПОРЫ ГОДА»*

СЯРОД многіх прыемных сюрпрызаў, якія ў апошні час усё часцей падносіць слухачам наша філармонія, выкананне араторыі Іосіфа Гайдна «Поры года» сапраўды можна лічыць падзеяй музычнага жыцця сталіцы. Араторыя — апошні твор, «лебядзіная песня» вялікага аўстрыйскага кампазітара, напісаная ў сямідзесяцігадовым узросце, — упершыню была выканана ў Вене ў 1801 годзе. Твор здзіўляе надзвычай пранікнёнай паэтычнасцю, яснасцю музычнага мыслення, невычэрпным аптымізмам. Лібрэта араторыі, створанае на аснове аднайменнай паэмы англійскага паэта Джэмса Томсана, належыць венскаму паэту-аматару ван Світэну. Гэта натхнёны гімн працы, у якім людзі знаходзяць шчасце і сэнс жыцця. У ім услаўляюцца простае і сумленнае жыццё сялян, палявыя работы, пейзажы лугоў і лясоў, любоў, народная мудрасць.

Твор, напісаны для сімфанічнага аркестра, хору, салістаў, складаецца з чатырох частак, якія носяць пэўны філасофскі, алегарычны сэнс: падобна на тое, як поры года змяняюць адна адну, так і ў чалавечым жыцці чаргуюцца дзяцінства («Вясна»), маладосць («Лета»), сталасць («Восень»), старасць («Зіма»). У вечным руху, абнаўленні — сэнс жыцця.

Жыццё сялян паказваецца ў шматлікіх хорах пасялян, земляробаў, паляўнічых, у партыях трох салістаў: старога аратага Сімона (бас), яго дачкі Ганны (сапрана) і маладога селяніна Лукі (тэнар). Аркестравы ўступ да кожнай часткі носіць праграмны характар. Аркестравыя фарбы часта выкарыстоўваюцца як сродак музычнай вынаходлівасці, гукапісу (імітацыя паляўнічых ражкоў, крыку птушак, раскатаў грому, квакання жаб і г. д.).

Як жа справіліся выканаўцы з выкананнем гэтага цяжкага манументальнага твора?

Аб'яднаны хор Беларускага тэлебачання, радыё і Дзяржаўнай кансерваторыі (мастацкі кіраўнік—заслужаны дзеяч мастацтваў БССР Віктар Роўда) зноў прадэманстраваў цудоўнае пеўчае майстэрства. Высокі прафесіяналізм, стараннасць адпрацоўкі дэталяў, беражлівае сур'ёзнае стаўленне да аўтарскай задумы — вось тыя якасці, якія ўласцівы гэтаму калектыву. Вабіць трапяткая мяккасць, цеплыня, задушэўнасць выканання. Асаблівай пахвалы заслугоўвае група сапрана: слухачы былі зачараваны прыгажосцю тэмбру, шчырасцю, роўнасцю гучання ва ўсіх рэгістрах.

Добра справіўся са сваёй задачай аркестр (канцэртмайстар — заслужаны артыст БССР Георгій Клачко): адчуваеш яго ансамбль, мяккасць, незвычайную пявучасць. Калектыў паказаў сябе дастойна як у аркестравых эпізодах, так і ў акампанеменце хору і салістам (калі не лічыць некаторую неадначасовасць, рытмічную недакладнасць у ігры струннай групы ў №№ 34, 35 і інш.). Добра праявілі сябе салісты аркестра Валерый Флораў (габой), Анатоль Марынчанка (флейта), Раман Ігнацьеў (кларнет) і іншыя. На высокім прафесійным узроўні выканаў партыю чэмбала Аляксей Ліфшыц. Сольныя вакальныя партыі выканалі салісты Дзяржаўнага тэатра оперы і балета Беларускай ССР заслужаная артыстка БССР Людміла Златава (Ганна), народны артыст БССР Віктар Чарнабаеў (Сімон), Леанід Івашкоў (Лука). Дакладнасць, музычнасць, высокі прафесіяналізм уласцівы Людміле Златавай. Добра праспяваў сваю партыю Леанід Івашкоў. Трэба сказаць, што гэты артыст аказаўся крыху ў цяжкаватым становішчы, бо яго партыя напісана ў асноўным у нізкай тэсітуры, але ўмелае валоданне голасам дапамагло спеваку пераадолець цяжкасці. Сакавіта, прыгожа гучыць голас Віктара Чарнабаева, хоць яго выкананне было крыху аднастайнае і не заўсёды дакладнае.

Дырыжыраваў араторыяй «Поры года» малады ленінградскі дырыжор Юрый Аліеў. За кароткі час ён здолеў падрыхтаваць і паказаць цікавую работу. Дырыжору ўласціва пачуццё формы і стылю, уменне працаваць «буйнымі мазкамі» і старанна адпрацоўваць дэталі. Юрый Аліеў мае свой дырыжорскі почырк — натуральнасць, прастата, лаканізм жэстаў, поўная выканаўчая свабода. Нават у самых напружаных момантах дырыжор ніколі не быў скаваны, «заціснуты».

Выкананне «Пораў года» сведчыць аб вялікіх творчых магчымасцях калектыву выканаўцаў. Хочацца выказаць падзяку за падарунак мінскаму слухачу і пажаданне, каб такія святы адбываліся часцей.

А рэпертуарныя магчымасці—неабмежаваныя, невычэрпныя...

**Аляксей КАГАДЗЕЕЎ,**
**народны артыст БССР.**

# ПАКАЗАЦЬ СВОЙ ЧАС

**АБ ЧЫМ І ЯК РАСКАЗВАЮЦЬ АМАТАРСКІЯ КІНАФІЛЬМЫ МАГІЛЯЎЧАН**

ЗАДАЧА чалавека, які ўзяў у рукі камеру, — паказаць жыццё па-свойму, так, як не паказваў яшчэ ніхто. Але кіно мае і свае правы, законы. Вось аб гэтым я і хацеў бы пагаварыць з кінааматарамі.

Адбыўся Усесаюзны конкурс аматарскіх фільмаў аб ашчаднасці і эканоміі ў народнай гаспадарцы. І радасна, што нашы беларускія кінааматары выступілі на гэтым конкурсе з вялікай цікавай праграмай. Самадзейная кінастудыя Мінскага ордэна Леніна і ордэна Кастрычніцкай Рэвалюцыі аўтамабільнага завода паказала на конкурсе фільм «Рэзервы на службу пяцігодкі», рэчыцкія кінааматары — кінанарыс «Як робіцца фанера», самадзейная кінастудыя Полацкага нафтаперапрацоўчага завода — нарыс «След на зямлі», «Лепшы па прафесіі» і «Прапановы» — работы гамяльчан. На конкурсе былі тры нарысы, знятыя ў Магілёве.

Цяжка даваць ацэнку ўсім работам. Спынюся толькі на стужках магіляўчан, у якіх я нядаўна пабываў.

У Магілёўскай вобласці шмат самадзейных студый, у якіх нядрэнна падрыхтаваныя аматары. Адна з іх — студыя «Прамень» пры доме культуры чыгуначнікаў, якой кіруе Адам Арцёмавіч Рагоўскі. Добра ведаюць у горадзе студыю «Электрык» завода электрарухавікоў, «Юпіцер» — завода «Строммашына».

Дарэчы, у гэтай студыі цікавая гісторыя. Камуніст, слесар-інструментальшчык завода «Строммашына» Міхаіл Райціс не без гумару расказаў, як яна арганізоўвалася. Ачышчалі тэрыторыю на суботніках, збіралі металалом, за выручаныя грошы купілі першую кінакамеру. Былы дырэктар завода Віктар Іванавіч Серабракоў кпіў: «Цырк будзеце наладжваць?» Але Райціс неўзабаве пачаў здымаць кінанарыс «Наш інструментальны», дзе былі зняты і заводскія «агрэхі». Калі на заводзе праходзіў справаздачна-выбарчы партыйны сход, прапанаваў камуністам паглядзець фільм. Многія былі здзіўлены: «Навошта гэта?» Але, убачыўшы, як на экране выглядае тое, да чаго як бы прывыклі, прыцярпеліся — ажывіліся. Фільм многіх кранўў за жывое. Цяпер у заводскай студыі выдатнае памяшканне, нават свая глядзельная зала. У плане — работы аб працоўных традыцыях, лепшых людзях завода. Вялікай папулярнасцю карыстаецца сатырычны часопіс «Звон», які выпускаецца адзін раз у два месяцы.

Упершыню ў нашай рэспубліцы гэтая аматарская студыя зняла невялікі мультыплікацыйны фільм «Навошта чалавеку агарожы» па малюнках інжынера-канструктара Валянціна Каротчанкі. Аператарам быў М. Райціс. І нягледзячы на тое, што фільм мае тэхнічныя і творчыя недахопы, глядзіцца ён жыва, цікава. Характэрна, што ў рабоце студыі прымаюць удзел інжынеры, начальнікі цэхаў. Яны пішуць сцэнарыі, кансультуюць.

Кінааператар самадзейнай студыі «Электрон» Тамара Новікава любіць кінамастацтва. Створаныя ёю фільмы «Тэхнічная творчасць», «Побач з табой» пабывалі на усесаюзным конкурсе. Фільмы з недахопамі, але яны каштоўныя тым, што расказваюць аб сваім заводзе, аб рабочых, іх творчасці, дружбе паміж моладдзю і старэйшым пакаленнем — ветэранамі вайны. Удала зняты моманты жыцця цэха, калі моладзь гуляе ў «каробачку» і ўсе разбягаюцца пры з'яўленні майстра. Іх, хто толькі што прыйшоў на завод, як быццам нічога не цікавіць, але паступова мы заўважаем, што юнакі зблiжаюцца з майстрам, які прайшоў вайны, вызваляў горад. Нарыс зняты месцамі схематычна, з многімі парушэннямі кампазіцыі, ёсць разнабойнасць у шчыльнасці цёмнага і светлага кадра, надуманыя планы. Але гэта не перашкаджае разгледзець людзей, зразумець іх, палюбіць.

Самадзейная студыя «МаАЗ» вельмі маладая. Яна арганізавалася ў кастрычніку 1970 года і мае добрую тэхніку. Разумеючы значнасць і сілу кіно, дырэкцыя, партыйны камітэт і мясцком удзяляюць ёй шмат увагі, дапамагаюць набываць кінаапаратуру.

У гэтай студыі ўжо ёсць сур'ёзныя работы, але галоўнае — удзельнікі яе самі выраблююць кінаапаратуру. Яны арыгінальна вырашылі пытанне з гукам на 16-міліметровай плёнцы не толькі ў сінхронным перазапісе, але і ў дэманстрацыі праекцыйным апаратам. Іх вынаходства заслугоўвае ўвагі.

Тэхнічны ўзровень апрацоўкі і здымкі вельмі высокі. Рабочы матэрыял чысты, правільна экспанаваны, гаворыць аб сур'ёзным падыходзе да аматарскага кіно. Вось толькі не хапае ў аператарскай рабоце свабоды кадра, руху самой кінакамеры. Кадры кінанарыса «Успомнім усіх па імёнах» заціснуты «жалезнай» кампазіцыяй, чым парушаецца рытм фільма.

Радуе папаўненне арміі кінааматараў. Адкрываецца новая аматарская студыя ў Магілёве пры таварыстве аховы прыроды.

Крыху насцярожвае аматарская студыя «Прамень» дома культуры чыгуначнікаў. Студыя, як я ўжо сказаў, адна са старэйшых у Магілёве, у яе сценах прайшлі нядрэнную тэарэтычную падрыхтоўку многія кінааматары. У гэтай студыі ёсць удалыя дакументальныя і ігравыя фільмы з удзелам самадзейных артыстаў. У кароценькім ігравым фільме «Нарэшце-такі» (аб рыбалцы) мне спадабаўся запеў фільма, дзе цітры зняты арыгінальна, з выдумкай. Але сам фільм зняты аднапланава, шмат абарваных, незакончаных планаў, што перашкаджала і мантажу. Разнабой у колеры.

Падобныя недахопы і ў ігравым фільме «Раненая кнігаўка» па апавяданні В. Цітова.

Вось тут я задумаўся. А ці варта траціць час, плёнку на ігравы аматарскі фільм? Вельмі слаба ўсё гэта выглядае на экране. Дрэнная ігра акцёраў не раскрывае вялікіх чалавечых пачуццяў.

Вялікая і дзелавая размова адбылася ў гэтай студыі разам з удзелам работнікаў гарадскога камітэта партыі і абласнога савета прафсаюзаў. Усебакова было абмеркавана пытанне аб сувязі кінааматараў з гледачом. Вырашана арганізаваць паказ у адным з кінатэатраў горада лепшых аматарскіх фільмаў, правесці вечары, прысвечаныя лепшым студыям. Было ўзнята пытанне арганізацыі аб'яднанага гарадскога аматарскага клуба пры гарадскім доме культуры.

На гэтай сустрэчы гаварылася аб аб'яднанні намаганняў усіх студый горада для стварэння вялікага фільма аб Магілёўшчыне.

У вялікім мастацтве няма рэцэптаў, ёсць асноўныя каноны, якіх прытрымліваюцца майстры кіно, і гэтыя каноны запісаны ў багатай літаратуры аб кіно. Іх трэба ведаць.

Адзін агульны недахоп характэрны для нашых кінааматараў. Няма адбору ў знятым матэрыяле, і гэта перашкаджае мантажу фільма. У гатовым фільме бачыш шмат паўторных планаў. Яны не толькі разбіваюць экранны расказ, але і перашкаджаюць раскрыццю асноўнай думкі. А галоўнае, прайграюць фільмы, у якіх няма культуры здымак — неахайнае адзенне герояў, брудны цёмны фон, непрыбраны станок, хаця размова ідзе аб станоўчым героі. Часта слабыя дыктарскія тэксты. Яны як бы паўтараюць тое, што мы бачым на экране самі. І яшчэ: старанны адбор кадра дасць магчымасць глыбей прадумаць сюжэт фільма, правесці правільны мантаж задуманай тэмы.

У кінааматараў цікавая і нялёгкая задача — занатаваць кінакамерамі свой час, сучасніка.

**Ф. ОСІПАЎ,**
**кінааператар.**



САКАВІК.

Фотаэцюд Ул. КРУКА.

# АБМЯРКОЎВАЮЦЦА НАВІНКІ РЭПЕРТУАРУ

Учора, 2 сакавіка, у Брэсце пачаў работу выязны пленум Беларускага тэатральнага аб'яднання. Яго ўдзельнікі паглядзяць і потым абмяркуюць нядаўнія прэм'еры абласнога драматычнага тэатра імя Ленінскага камсамола Беларусі — «Мяшчане», «А зоры тут ціхія...», «Саслужыўцы», «Залатое вуха» і спектакль мінулага года «Трэцяя варта».

З Мінска БТА камандзіравала групу тэатральных дзеячоў, якія разам з мясцовымі актывістамі аб'яднання прааналізуюць рэжысуру, акцёрскія работы, дэкаратыўнае афармленне і іншыя кампаненты названых вышэй пастановак. У прыватнасці, удзельнічаюць у пленуме народныя артысты БССР Г. Абуховіч і С. Бірыла, заслужаны дзеяч мастацтваў рэспублікі Ул. Стэльмах, крытыкі Г. Барышаў, С. Пятровіч, А. Саннікаў.

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ




НАТАША *(з узрушэннем)*. Зірні на гэтага!.. Вунь на таго, хто з легкавушкі выскачыў. Ай-я-яй, якая грандыёзная барада, а кучары аж на каўнер кладуцца. А джэмпер — імпартны! Вось гэта з'ява!

ПАЛІНА *(не падзяляе захаплення)*. Колішні мой знаёмы.

НАТАША. Няўжо? Хто ж ён: скульптар, мастак, дырыжор?..

ПАЛІНА *(усміхаецца)*. Ні тое і ні другое.

НАТАША. Можа лірычны тэнар, першая скрыпка, паэт-лірык?..

ПАЛІНА. Лірык то лірык, ды не паэт.

НАТАША *(без ранейшага ўжо захаплення)*. Дык можа сатырык, гумарыст?

ПАЛІНА. Ой, Наташка, якая ты ўсё-такі дзівачка!

НАТАША *(расчаравана)*. І не сатырык? Дык чаму ён такім гогалем ходзіць?

ПАЛІНА. Перад табой, Наташка, раманіст!

НАТАША *(аж засвяцілася)*. Раманіст?! Ой, Паліначка, няўжо гэта праўда?

ПАЛІНА. Не маню.

НАТАША. Значыць, у яго ёсць раман?

ПАЛІНА. Не адзін, а цэлыя тры!

НАТАША *(з ранейшым узрушэннем)*. Такі малады і ўжо тры раманы! Трылогія, значыцца? І, напэўна, карыстаецца поспехам?

ПАЛІНА. У яго раманах, каб ты ведала, — усе трыццаць тры адмычкі да поспеху..

НАТАША. Дык ты скажы мне назвы яго раманаў.

ПАЛІНА. Калі ласка! Леначка, Рытачка, Люсенька!..

НАТАША *(у захапленні)*. Ой, як цікава! І тэма — пальчыкі абліжаш: сучасныя дзяўчаты!

ПАЛІНА. Ты, Натачка, не памылілася. *(Шэпча на вуха)*. Першы яго раман быў з Леначкай Грудзінскай, другі — з Рытачкай Кружэня, трэці — з Люсенькай Ляшчэня...

НАТАША *(з абурэннем)*. З гэтай размаляванай лялькай? Ой, мамачкі! Не інакш, усе мужчыны сляпыя.

ПАЛІНА. Не хвалюйся, Натачка, бач, цябе ён ужо заўважыў. *(Зноў шэптам)*. Паміж намі, дзяўчатамі, кажучы, па яго вачах відаць, што цяпер гэты спадпічнік натхніўся на новы, чацвёрты, раман. *(Наташа прыхарошваецца)*. Аднак улічы: ён будзе такім жа кароткім, як папярэднія. Адным словам — міні-раман.

Іван РАЛЬКО

## ВЫ ДАРУЙЦЕ НАМ СЁННЯ, ЖАНЧЫНЫ

**Вось і зноў ваша светлае свята...**
**Ваша свята,**
**якіх не багата.**
**А ў мужчын, як заўжды, —**
**праз гады, —**
**Не хапае ўсё часу**
**На жаночага свята акрасу.**
**Не хапае якойсьці хвіліны.**
**Ах, мужчыны... мужчыны...**
**Я—адзін з вас: такі ж недарэка...**
**Дзе шукаць,**
**Дзе дастаць**
**Дзіўных траў — добрых лекаў —**
**Ад няўвагі —**
**знявагі**
**І крыку —**
**разліку...**
**Дзе знайсці запаветнае зелле тое!..**
**Мо ля шэрай**
**замшэлай лясіны**
**Каля вузенькай сцежкі ласінай,**
**А мо ў пушчы —**
**на дзікай паляніцы,**
**Дзе таўкуцца камарыкі ў танцы!**
**На гэта адразу**
**Не знойдзеш адказу,**
**Не высніш патрэбных слоў, —**
**(дакарай, распінай нас, Любоў!..) —**
**Вы даруйце нам сёння, Жанчыны!**
**Раз у год мы прыходзім з павіннай...**
**І ў вачах вашых — свет маладзее,**
**Узыходзіць, як сонца, надзея...**

## З ФРАНЦУЗСКАГА ГУМАРУ

*Маленькі хлопчык пытае маленькую дзяўчынку:*

*— Калі мы будзем вялікія, выйдзеш за мяне замуж?*

*— Не, я ніяк не магу, — адказвае дзяўчынка.—Разумееш, у нас у сям'і выходзяць замуж толькі за сваякоў: мама выйшла за тату, бабуля—за дзеда, а цётка—за дзядзьку...*

□

*— Дарагі, паедзем на тыдзень у Ніццу.*

*— Гэта немагчыма. Трэба падумаць пра нашы даўгі.*

*— Вось там у цябе і будзе больш часу думаць пра іх.*

□

*Жонка падае абед мужу, які прыйшоў з работы:*

*— Дарагі, сёння па радыё перадавалі два цудоўныя рэцэпты: плямазнішчальніка і супу.*

*Пачуўшы гэта, муж адкладвае лыжку.*

*— Ну, дарагая, цяпер, калі я паспрабаваў плямазнішчальнік, ты пачастуеш мяне супам?*

**У КНІГАРНІ**

*— Скажыце, калі ласка, у вас ёсць кніга «Мужчына—уладар жанчын»?*

*— Звярніцеся налева, у аддзел фантастыкі.*

**РАМАН У ПІСЬМАХ**

*«Дарагая Мары!*

*Гэта ўсё мая жахлівая рассеянасць. Дакладна памятаю, што ўчора ўвечары прасіў Вашай рукі, але ніяк не магу ўспомніць, што Вы мне адказалі...»*

*«Мой дарагі Анры!*

*Як міла, што Вы напісалі мне. Мне было вельмі прыкра, што я ніяк не магла ўспомніць, каму адказала «не» ўчора ўвечары».*

**Пераклала з французскай Э. ІОФЕ.**

А. МІМРЫК

## ПА САКРЭЦЕ

Мая жонка — усім жонкам жонка. Хочаце верце, хочаце не. А лепш я раскажу пра яе. Каб толькі яна не даведалася, бо жыцця тады не будзе.

Аднаго разу жонка дужа мяне здзівіла і ўразіла. Чакаў яе з работы, чакаў, а яна з'яўляецца толькі ў дзесяць гадзін вечара. Гляджу і вачам не веру. Жонка гэта ці не жонка? Твар нібы яе, а вось валасы... Што з імі? Сталі зусім белыя, як сівыя. Прычоска высокая, бы птушынае гняздо.

— Мяфодзік, праўда, прыгожа? Даўно хацелася мне стаць бландзінкай.

Жончын голас вывеў мяне з аслупянення.

— Цяпер цябе хоць на сцэну выпускай! — засмяяўся я.

Тыдні два я не мог прывыкнуць да жонкі. Зірну і думаю: «Што яна з сабою робіць?»

Аднаго разу Паўліна кажа мне:

— Добра было б і табе, Мяфодзік, падфарбавацца.

— Глядзі сябе, а мяне не чапай...

І зноў кожнае раніцы яна гадзіну выседжвае перад люстэркам, а я раблю ўсю хатнюю работу. Калі ж часам пачынаю абурацца яе паводзінамі, яна адразу ў слёзы. А скажу вам шчыра: не выношу жончыных слёз.

Думаеце, доўга яна пабыла бландзінкай? Не! Настаў час, калі стала брунеткай. Прыйшла дадому і адразу да мяне:

— Мяфодзік, ці падабаецца табе такі колер?

— Не. Бландзінкай табе лепей.

— Цяпер жа такая мода, — засмяялася Паўліна. — Нічога ты не разумееш.

Нядаўна мая жонка стала рыжай. Ведаеце, такой рыжай, з медным адлівам.

— Цяпер рыжыя валасы ў модзе, — заявіла яна.

Няхай сабе будуць рыжыя. Мне ўжо ўсё роўна. Вось толькі суседзі сталі пасміхацца, ды і саслужыўцы кпяць. А яна хоць бы што. І я падумаў: «Чым усё гэта скончыцца?»

А скончылася вось чым. Прыходжу аднойчы дамоў, а Паўліна сядзіць заплаканая, на галаве хусцінка завязана.

— Што з табою? — здзівіўся я.

Развязала яна хусцінку, і я ўбачыў... амаль лысую галаву. Відаць, не вытрымалі валасы фарбы, павылазілі.

— Вось табе і маеш! — толькі і сказаў я.

— Маўчы, Мяфодзік, маўчы! Гэта ж я хацела перафарбавацца сама, дома, накупляла рознай фарбы, перакісу, ды, відаць, нечага перадала, — сказала Паўліна і залілася слязьмі.

Але што зробіш: сама вінавата. Можа хоць цяпер за розум возьмецца. Будзе дома сядзець, пакуль валасы адрастуць, можа, нешта на гаспадарцы паможа. Дзе гэта відаць, каб муж выконваў усю жаночую работу, а яна — анічагусенькі не глядзела? Але ніяк на магу дадумацца, што б такое зрабіць, каб яна перастала мною камандаваць? Можа, вы падкажаце мне? Па сакрэце?




**У гасцях і дома.**
Мал М. ЧАРНЯЎСКАГА.

## МІМАХОДЗЬ

І. БАРКОЎ

□ Хабарнік не адмаўляўся браць нават дзірку ад бубліка.

□ Было б яшчэ паўбяды, калі б плагіятар сем разоў за пяро браўся...

□ Кашалёк заўжды таўсцейшы ў чужых руках.

Д. КУМСКІ

□ Быў верны сабе ў нявернасці да жонкі.

А. ПРАНІШНІКАЎ

□ У імя праўды быў здольны нават на хлусню.

М. ШЛЯФЕР

□ Ёсць залатыя думкі, а ёсць проста бліскучыя.


**По тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.**

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра кіно і музыкі — 33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры — 33-21-53, выдавецтва — 32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.

Галоўны рэдактар Л. Я. ПРОКША.

Рэдакцыйная калегія: З. І. АЗГУР, А. Ц. БАЖКО (намеснік галоўнага рэдактара), Б. І. БУР'ЯН, А. І. БУТАКОЎ, А. С. ГРАЧАНІКАЎ, Ю. П. ГРЫГОР'ЕЎ, К. Л. ГУБАРЭВІЧ, І. М. ДАБРАЛЮБАЎ, В. У. ІВАШЫН, А. С. КАЗЛОЎСКІ, П. М. МАКАЛЬ, У. Л. МЕХАЎ (адказны сакратар), Р. К. САБАЛЕНКА, І. А. САНКОВА, М. Г. ТКАЧОЎ, Ю. М. ЧУРКО, Р. Р. ШЫРМА.

Індэкс 63856 АТ 01608.